**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 09 (882) 2 сакавіка 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

*Са святам вясны і прыгажосці!*

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



ISSN 2077-8023







У суботу 25 лютага ў зале бокса Глыбоцкага баксёрскага клуба "Рынг" адбыліся ўрачыстасці з нагоды 30-х угодкаў узнікнення баксёрскай секцыі ў Глыбоцкім раёне. Славуты глыбоцкі трэнер Віктар Матвеевіч Каляга прымаў віншаванні і падарункі, а таксама зычэнні далейшых поспехаў на славу глыбоцкага спорту.

Прыехалі каманды баксёраў з розных гарадоў, адбыліся двубоі юных спартоўцаў. Галоўным суддзёй спаборніцтваў быў Віктар Матвеевіч Каляга. Працяг тэмы на стар. 4-5. *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*



**Віншуем нашых паважаных чытачак з Міжнародным жаночым днём 8 сакавіка!**

Шчасця, здароўя, прыгажосці!



**Лынтупскія дзяўчаты!**

### Мёрскі раён

# Мароз слязам не верыць

■ Чэслаў Якубовіч.

**Месяц студзень апраўдаў сёлета сваю назву па поўнай праграме, а вялікія маразы выклікалі паўсюдна шэраг розных здарэнняў.**

На працягу аднага халоднага дня ў Міёрскім раёне адбыліся тры пажары з цяжкімі наступствамі. Спачатку раніцай прыйшло паведамленне аб узгаранні жылога дома ў вёсцы Клімяты. Мяркуючы па ўсім, трагедыя ў хату прыйшла пасярод ночы. У ёй жыла адзінокая прэстарэлая 89-гадовая бабуля. Пенсіянерцы сацыяльныя службы некалькі гадоў назад устанавілі аўтаномны пажарны апавяшчальнік, а потым дапамаглі адрамантаваць электраправодку. Мінулай восенню за свае сродкі яна зрабіла рамонт пячнога ацяплення, але ў люты холад, верагодна, занадта моцна яго нацяпліла ў сілу ўзросту. У выніку жанчына загінула, а агонь знішчыў дах, столь, пашкодзіў сцены і маёмасць загінуўшай. У той самы дзень, толькі пад вечар, моцна пацярпела пры растопцы печкі 70-гадовая пенсіянерка ў вёсцы Слабада. На ёй загарэлася адзенне, а полымя, пры спробе яго патушыць, перакінулася на шторы, шпалеры і хутка распаўсюдзілася па ўсёй хаце. Разам з мужам яны паспелі самастойна выбрацца з хаты да прыезду пажарных. Гаспадыню з апёкамі рук і цела прыйшлося шпіталізаваць для лячэння ў райбальніцу. Вось толькі пасля выпіскі адтуль ёй прыйдзецца зімаваць далей у дачкі ў Верхнядзвінску, бо іх дом стаў непрыгодны для пражывання і патрабуе сур'ёзнага рамонту. У той самы дзень быў зафіксаваны пажар і ў самым малым горадзе краіны, Дзісне. Полымя там нарабіла меней шкоды, але ў выніку пажару была пашкоджана маёмасць і столь, сцены дома.

### Полацкі раён

# Паўторна асудзілі ўрача

■ Станіслаў Раманчук.

**Вялікі рэзанансмела пазалетась у краіне гісторыя з двума полацкімі ўрачамі, па віне якіх маленькаядзяўчынка ледзь не загінула і стала інвалідам.**

Тады напрыканцы жніўня 2015 года мясцовыя медработнікі – рэнтгенолаг і хірург дзейнічалі неахайна і на працягу 9 дзён не маглі ўбачыць у арганізме малой пацыенткі батарэйку, якую яна праглынула. Да здзіўлення бацькоў пацярпелага дзіця, іх нядаўна зноў выклікалі ў мясцовы суд для паўторнага разгляду гэтай справы. Папярэдні прыгавор адміняў Вярхоўны суд Беларусі, але на гэты раз разбіраліся толькі з маладым хірургам, які на 2 гады быў пазбаўлены раней права займацца медыцынскай дзейнасцю, заплаціў штраф 3150 рублёў. Ён прызнаў сваю віну і таксама дапамог сям'і грашыма на лячэнне дзяўчынкі, бацькі яго прабачылі і не мелі прэтэнзій. Аднак суд палічыў інакш і вырашыў, што малады спецыяліст дзейнічаў неасцярожна, не правёў патрэбныя даследванні і ў выніку прычыніў пацыенту цяжкія пашкоджанні цела. За такія дзеянні новы прыгавор суда аказаўся яшчэ больш суровы. Былога ўрача гарбальніцы прызналі вінаватым і пакаралі 2 гадамі абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Яму таксама павялічылі суму штрафу да 200 базавых велічынь, альбо 4600 новых рублёў. Аднак самае страшнае для спецыяліста пакаранне – гэта забарона на 5 гадоў займацца медыцынскай дзейнасцю. Фактычна за дапушчаную памылку на прафесіі ўрача можна ставіць крыж. Пацярпелай дзяўчынцы зрабілі пасля той бяды некалькі аперацый па аднаўленні стрававода, ёй стала крыху лепей, але ва ўзросце амаль 4 гады яна яшчэ не размаўляе пасля ўсяго перажытага.

### Пастаўскі раён

# У край казак і легенд

■ Кастусь Александровіч

**Толькі чатыры гарады вобласці, сярод якіх і Паставы, пастановай урада Беларусі аднеслі да цэнтраў адпачынку і турызму міжнароднага і нацыянальнага значэння.**

У самым заходнім райцэнтры Прыдзвіння гасцям, сапраўды, ёсць на што паглядзець і палюбавацца архітэктурай цэнтральнай плошчы XVIII стагоддзя, мясцовымі храмамі, старым млынам і музеем у Палацы Тызенгаўза. Шмат станоўчых уражанняў ад знаёмства з багатай гісторыка-культурнай спадчынай днямі атрымалі і работнікі буйной кампаніі “Белтурыст” і яе філіялаў з розных куткоў краіны, для якіх быў арганізаваны спецыяльны прома-тур. У гэты дзень спецыялісты турбізнесу далі высокую ацэнку працы абноўленага спартыўна-турыстычнага комплексу “Азёркі” паблізу горада, для якіх спецыяльна паказалі новае казачнае прадстаўленне “Карагод казак пастаўскага Паазер'я”. Яно вельмі цікавае, бо пабудавана на мясцовым беларускамоўным матэрыяле з персанажамі з казак славутага земляка, паэта Уладзіміра Дубоўкі. Для іх паказу прыкметна змянілася інфаструктура аб'екта, дзе з'явілася вялікая сцэна з навесам, запрацавала сапраўдная карчма. На серыі зімовых прадстаўленняў тут пабывала звыш 2-х тысяч чалавек. Яшчэ раней напрыканцы лета там адкрылі скаладром, вяровачны турыстычны гарадок, паляну казак, а сёлета летам запрацуюць пляж, гульнявыя зоны, тут можна будзе спыніцца і на начлег. Новую анімацыйную праграму падрыхтавалі і для свята Масленіцы. З'явіцца неўзабаве пасярод лесу новы маршрут для турыстаў “Казачная сцежка Дубоўкі” з драўлянымі скульптурамі дзеда Бая з казачным куфарам і яго лясных сяброў звяроў.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 02.03.17 | | | | Пятніца 03.03.17 | | | | Субота 04.03.17 | | | | Нядзеля 05.03.17 | | | | Пан.06.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | 0 | +5 | +4 | +2 | +1 | +3 | +2 | 0 | 0 | +5 | +5 | +5 | +5 | +8 | +7 | +3 | +3 | +5 |
| Ціск | 739 | 739 | 739 | 736 | 733 | 734 | 741 | 742 | 744 | 745 | 744 | 741 | 738 | 736 | 738 | 739 | 739 | 737 | 736 |
| Вецер м/сек | 3 Пд | 4 Пд | 4 Пд-З | 6 Пд | 7 Пд-З | 9 З | 6 З | 3 Пд | 4 Пд-З | 4 Пд | 5 Пд | 7 Пд-У | 7 Пд | 7 Пд | 9 Пд-З | 7 Пд-З | 3 Пд | 5 Пд-У | 8 Пд-У |
| Вільготнасць | 94 | 96 | 82 | 88 | 87 | 92 | 82 | 90 | 95 | 94 | 86 | 84 | 86 | 96 | 77 | 75 | 94 | 97 | 97 |

# Аб самым надзённым

## З РАЎНАПРАЎНЫМ САЮЗНІКАМ І ПАРТНЁРАМ НЕ ВЯДУЦЬ СПРАВЫ ТАК, ЯК ДРУГІ ГОД ДЗЕЙНІЧАЕ СУПРАЦЬ БЕЛАРУСАЎ РАСІЯ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Сумна, але з кожным днём пашыраецца пералік беларускіх тавараў, якія не пускаюць на расійскі рынак. Аднак з кожнай, нават вельмі няпростай сітуацыі знаходзіцца з цягам часу выйсце. Для нас яно ў тым, каб яшчэ актыўней пачаць дыверсіфікацыю айчыннай эканомікі, шукаць збыт нашым таварам на іншых рынках свету.**

Апошнія халады сёлетняй зімы перад адлігай супалі з адкрыццём у Беларусі бязвізавага рэжыму. Як па мне, дык хай бы замежныя грамадзяне з найбольш важных для нашай краіны дзяржаў свабодна прыязджалі да нас і не на 5 сутак, а на больш тэрмін. На мой розум, належыла б іх пускаць і праз іншыя пункты пропуску, а не праз адзін толькі Нацыянальны аэрапорт “Мінск”. Дарэчы, хто не ведае, яшчэ некалькі гадоў назад на падобныя крокі дверу і адкрытасці першым пайшоў саюзны нам Казахстан і ўвёў тады бязвізавы рэжым усюду на 15 сутак. Штосьці не памятаю, каб нейкі “лямант”, як выказаўся беларускі лідар, з гэтай нагоды выказвала казахам Расія, якая зараз на каго толькі ў свеце не крыўдзіцца.

Аднак у адносінах да нас, беларусаў, быццам мы не суверэнная краіна, а нейкі неразумны васал, рэакцыя Крамля аказалася нервовай. Чаго варты адно толькі з'яўленне пагранічнай зоны з расійскага боку на беларускай граніцы. Прычым рашэнне аб гэтым главой ФСБ было падпісана яшчэ да Новага года, а ўжо потым мы ўвялі бязвізавы рэжым. І вось шчыра парадавала, што за першыя суткі амаль 220 замежных грамадзян скарысталіся магчымасцю наведаць нашу краіну без візы. На гэтым фоне на расійскіх тэлеканалах, якія толькі прэтэнзіі і папрокі не сталі гучаць супраць Беларусі, што маўляў пара паставіць беларусаў на месца, перастаць падтрымліваць “авторитарное государство, которое находится у нас на содержании …”.

Апошнія словы належаць не нейкаму там імперскаму ястрабу, тыпу Жырыноўскага, а адукаванаму нібыта ліберaлу Юліі Латынінай. Тым часам расійска-беларускі канфлікт у нафта-газавай сферы зайшоў настолькі далёка, што ўпершыню Масква нагадала праз пуцінскую прэс-службу, што расійскі бюджэт недаатрымаў з 2011 па 2015 гады 22,3 млрд. долараў, бо занадта шмат нам пастаўлялі бяспошліннай нафты. З іншага боку быццам бы Беларусь не прадавала рускім увесь час не толькі даволі танныя прадукты харчавання, не брала ні капейкі за размяшчэнне на сваёй тэрыторыі дзвюх расійскіх ваенных баз.

На ўсход ішлі таксама чвэрць стагоддзя лепшыя беларускія прамысловыя тавары: станкі, машыны, механізмы, трактары, БелАЗы, угнаенні, абутак і многае іншае, што суседзям было патрэбна і дзякуючы чаму захоўваліся ў самой Расіі сотні тысяч працоўных месц. Нашы многія суседзі элементарна не галадалі, бо мы кармілі яшчэ практычна столькі людзей, колькі пражывае на нашай зямлі.

Аднак зараз на расійскіх прасторах гучаць ужо пагрозы, што Беларусь стала недастаткова лаяльнай да Крамля і пара даць ёй гэта добра зразумець. Між тым, спецыялісты падлічылі, што падобных вострых спрэчак з Расіяй па энерганосьбітах было дагэтуль 8 выпадкаў, нам манапаліст “Газпрам” адключаў падачу газу нават у навагоднюю ноч. Між тым, дасведчаныя спецыялісты прама гавораць, што калі б Расія хацела сапраўднай інтэграцыі і раўнапраўных адносін унутры ЕАЭС, то цяперашніх канфліктаў і розных газавых, нафтавых, калійных і харчовых войнаў не было б у прынцыпе.

Вось чаму яшчэ летась ведамства сумна вядомага ветэрынара-мільярдэра С. Данкверта стала забараняць прадукцыю некалькі дзясяткаў айчынных мясамалочных прадпрыемстваў. У гэтага дзеяча, сапраўды, рыльца ў пушку, буржуй валодае цэлымі аграхолдынгамі і кампаніямі. Высветлілася гэта, калі нашы праваахоўныя органы пачалі даследчыя праверкі дзеянняў па дыскрэдытацыі добрай рэпутацыі беларускіх вытворцаў. Невыпадкова Рассельгаснагляд адмяніў камандзіроўкі сваіх супрацоўнікаў у Беларусь, баючыся, што на нашай зямлі з імі цырымоніцца не стануць, як раней з такім дзялком, як Баўмгартнер (прозвішчы на дзіва нярускія).

Перад гэтым, як вядома, рускія забаранілі ўвоз мяса ялавічыны з усёй ужо Міншчыны, а потым прадоўжылі нам помсціць. Іх чыноўнікі цяпер сталі патрабаваць спецыяльных дазволаў на ўвоз у Расію як на жывых свіней, так і на вырабленую са свініны прадукцыю нібыта з-за апасенняў завозу ад нас афрыканскай чумы свіней. Да нядаўняга абвастрэння ўзаемных адносін такіх патрабаванняў і абмежаванняў не было, беларускім прадуктам была шырокая дарога на бязмежныя расійскія прасторы. А зараз беларусам яшчэ раз нагадваюць, наколькі мы залежныя ад Расіі ў структуры свайго экспарту.

Сумна, але з кожным днём пашыраецца пералік беларускіх тавараў, якія не пускаюць на расійскі рынак. Аднак з кожнай, нават вельмі няпростай сітуацыі знаходзіцца з цягам часу выйсце. Для нас яно ў тым, каб яшчэ актыўней пачаць дыверсіфікацыю айчыннай эканомікі, шукаць збыт нашым таварам на іншых рынках свету. Пуцін так стараўся стварыць свой любімы Еўразійскі саюз. На паперы гэты арганізацыя нібыта дзейнічае, а на справе - дзе абяцанае свабоднае перамяшчэнне тавараў, капіталаў і рабочай сілы, калі і пагранічная зона на нашых граніцах з'явілася? Калі суседзям так да спадобы хапацца за грудкі з цывілізаваным светам, то беларусам не трэба ўдзельнічаць у чужых войнах і незразумелых крамлёўскіх антысанкцыях. Ні за такую еўразійскую “інтэграцыю” падпісвалася кіраўніцтва Беларусі.

## Дзень за днём

**Больш 400 тысяч беларусаў не ўплацілі збор на фінансаванне дзяржрасходаў. Беларусь разлічвае ўступіць у СГА на працягу 5 наступных гадоў. А. Лукашэнка зацвердзіў Мытны кодэкс ЕАЭС, але толькі як аснову для перамоў. Другі год працягваецца газавая спрэчка з Расіяй, рознагалоссі плануюць вырашыць у І-м квартале 2017 года. Беларусь разам з Кітаем пачынае вырабляць беспілотнікі. З новым рэактарам Беларускай АЭС зноў адбыўся інцыдэнт пры дастаўцы ў Астравец. Айчынныя магазіны прадоўжылі дні скідак. У самым багатым горадзе краіны Мінску рознічны тавараабарот у пачатку года знізіўся на 3,5 %.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Група амерыканскіх сенатараў заявіла, што пры прэзідэнце Д. Трампе будзе ініцыіраваць увядзенне дадатковых жорсткіх санкцый супраць Расіі з-за яе палітыкі.

**Расія.** Шквал абурэнняў пракаціўся па краіне пасля ўвядзення ЗША новых дадатковых санкцый супраць Расіі і высылкі 35 расійскіх дыпламатаў у духу "халоднай вайны".

**Сірыя.** Расія накіравала ў горад Алепа свой батальён ваеннай паліцыі для падтрымкі парадку і пачала распрацоўваць з Турцыяй і Іранам план падзелу краіны на зоны ўплыву.

**Турцыя.** Забароненая ў многіх краінах свету "Ісламская дзяржава" ўзяла на сябе адказнасць за тэракт у начным клубе Стамбула, дзе было забіта 39 чалавек.

**Англія.** Сёлета, як папярэдзіла газета Sunday Times, у год выбараў у Галандыі, Францыі і Германіі Расія можа паспрабаваць умяшацца ў чужыя ёй дэмакратычныя працэсы.

**КНДР.** Старшыня ППК Кім Чэн Ын паабяцаў суайчыннікам неўзабаве стварыць межкантынентальную балістычную ракету і стаць ядзернай дзяржавай Усходу.

**Украіна.** Урад дазволіў украінскім ваенным збіваць пасля папярэджальнага агню самалёты-парушальнікі з замежных дзяржаў паветранай прасторы краіны.

**Фінляндыя.** На працягу тыдня ў краіне праходзілі масавыя ўрачыстасці з нагоды 100-годдзя аддзялення ад Расіі, галоўны канцэрт у Хельсінкі сабраў звыш 100 тысяч людзей.

**Расія.** Кіраўнік Інстытута дэмаграфіі, міграцыі і развіцця РФ Ю. Крупноў заявіў, што фундаментальнага адзінства ў ЕАЭС не будзе, бо казахам важней Кітай, беларусам – ЕС.

**Польшча.** Пасля забойства арабам з Туніса маладога паляка ў горадзе Элк адбыліся сутычкі гараджан з мігрантамі і паліцыяй, было затрымана 28 чалавек, падпалілі бар.

**Венесуэла.** У краіне стварылі спецыяльнае ўпраўленне на чале з міністрам абароны для забеспячэння паставак харчавання з-за далейшага пагаршэння эканамічнай сітуацыі.

**Фінляндыя.** Палітолаг А. Мошэс заявіў, што ў адносінах Расіі з Беларуссю скончылася палітыка "газ у абмен на пацалункі", Крэмль ніколі і нікому не забывае і не прабачае свае крыўды.

**Казахстан.** Урад краіны ўвёў бязвізавы рэжым уезду для грамадзян яшчэ 37 самых развітых дзяржаў свету, сярод якіх ААЭ, Сінгапур, для ўсяго рэгіёна Цэнтральнай Азіі.

**Польшча.** Міністэрства культуры танна набыло за 100 млн. еўра ў прыватных калекцыянераў калекцыю сусветна вядомых карцін Леанарда да Вінчы і Рэмбрандта.

**Расія.** Суд Уладзівастока вырашыў канфіскаваць і знішчыць 36 экземпляраў кніг Бібліі з-за адсутнасці на іх маркіроўкі рэлігійнай арганізацыі згодна новага "закона Яравой".

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## У Беларусі разглядаюць пытанне аб увядзенні абавязковага адпачынку для бацькі пры нараджэнні дзіцяці



■ Кар. БЕЛТА

**Пытанне аб мэтазгоднасці ўвядзення ў Беларусі абавязковага сацыяльнага водпуску для бацькі пры нараджэнні дзіцяці будзе вынесенае на грамадскае абмеркаванне. Пра гэта ў інтэрв'ю часопісу «Беларуская думка» паведаміў намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Васіль Жарко.**

«Прапрацоўка пытання аб мэтазгоднасці ўстанаўлення абавязковага сацыяльнага водпуску для бацькі пры нараджэнні дзіцяці прадугледжана падпраграмай «Сям'я і дзяцінства» Дзяржаўнай праграмы «Здароўе народа і дэмаграфічная бяспека Рэспублікі Беларусь» на 2016-2020 гады. Пытанне будзе вывучанае ў бягучым годзе рабочай групай, у якую ўвойдуць спецыялісты розных ведамстваў. І, думаю, адпаведныя прапановы будуць прадстаўленыя на дадатковае грамадскае абмеркаванне», — сказаў віцэ-прэм'ер.

Паводле яго слоў, у Беларусі даволі актыўна падключыліся да абмеркавання гэтай тэмы.

«Для нас гэта вельмі важны сігнал. Ён сведчыць аб тым, што грамадства зацікаўлена ў павышэнні ролі бацькі ў сям'і, адказным бацькоўстве. Так, пакуль у Беларусі мужчыны вельмі рэдка карыстаюцца магчымасцю водпуску па доглядзе дзіцяці. Відавочна, што і самі яны недаацэньваюць мужчынскі ўдзел у выхаванні дзяцей. Аднак рэалізацыя ініцыятывы па ўвядзенні абавязковага дэкрэтнага водпуску для бацькі, на думку спецыялістаў, здольная змяніць сітуацыю», — адзначыў Васіль Жарко.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Астравец.** Прэс-служба Беларускай АЭС пасля тэхнічнай экспертызы заявіла, што з-за інцыдэнта падчас дастаўкі па чыгунцы новы корпус рэактара для станцыі не пацярпеў.

**Мінск.** Экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч папярэдзіў, што за кошт эмісіі, павелічэння грашовай масы можна падняць заробкі да 500 $, але потым хутка адбудзецца абвал.

**Жодзіна.** Пракуратура Мінскай вобласці запатрабавала ад дырэкцыі БелАЗа прыняць меры па вяртанні пратэрмінаваных даўгоў за адгружаныя машыны ў Кітай, Зімбабве.

**Гомель.** На тэрыторыі вобласці на вялікай глыбіні звыш 5200 метраў знайшлі новае радовішча з запасамі 1,7 млн. тон нафты, плюс, што яно з высокім пластавым ціскам.

**Мінск.** Адзін з кіраўнікоў ЛДПБ А. Гайдукевіч заявіў, што Расія – дрэнны саюзнік, не купляе нашы тавары, прадукты, а вось ЗША штогод дае Ізраілю 6 млрд. $ падтрымкі.

**Бабруйск.** Расія вернецца, як заявіў ваенны эксперт А. Паратнікоў, да пытання авіябазы, хоць практычна яна РФ не патрэбна, але Масква жадае паказаць, што РБ – зона яе ўплыву.

**Мінск.** Крызіс у нас, як заявіў былы глава Нацбанка С. Багданкевіч, мог бы завяршыцца за некалькі гадоў, але трэба змяніць мадэль кіравання эканомікай і знізіць падаткі.

**Драгічын.** Ураджэнца вёскі Леснікі, 60-гадовага экс-міністра аховы здароўя Васіля Жарко прызначылі віцэ-прэм'ерам урада Беларусі па пытаннях сацыяльнай сферы.

**Мінск.** Лаўрэат Нобелеўскай прэміі С. Алексіевіч папярэдзіла, што цяпер час нават горшы за савецкі, мы не маем сілы супрацьстаяць Расіі, якая хоча праглынуць нас, як Украіну.

**Рагачоў.** Падчас спрэчкі на падпітку ў сваёй лазні жыхар вёскі Станькоў паспрабаваў тапаром забіць такога ж непрацуючага суседа, але параніў толькі яго ў жывот.

**Мінск.** Бізнесмен А. Кныровіч перад арыштам папярэдзіў, што зарплаты 500 долараў не будзе, бо пры гадавой інфляцыі 9 % добра, калі заробкі беларусаў дасягнуць 405 USD.

**Мазыр.** Жонка асуджанага да расстрэлу 39 гадовага К. Казачэка, забойцы двух уласных дзяцей з-за помсты ёй, пацвердзіла, што хацела пажыццёвага зняволення.

**Мінск.** Былы член Канстытуцыйнага суда Беларусі М. Пастухоў заявіў, што ў Еўропе даўно не забіваюць людзей і толькі ў нас існуе гэты варварскі звычай пакарання смерцю.

**Брэст.** Агульны сход акцыянераў заключыў міравое пагадненне з Першай шакаладнай кампаніяй, пасля амаль году прастою яна аднавіла выпуск да 80 тон прадукцыі ў месяц.

**Мінск.** Апостальскі нунцый арцыбіскуп Г. Пінтэр пацвердзіў, што разам з урадам Беларусі працуе над візітам Папы Францішка, але яго прыезд павінен быць станоўча ўспрыняты.

*Служба інфармацыі "ВГ"(па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## МУС: ва ўсіх крамах алкаголь не павінен прадавацца пасля 23.00

■ Рыгор Грыбаў

**Ігар Шуневіч пазначыў пазіцыю МУС у частцы рэалізацыі алкаголю.**

- Ён не павінен прадавацца ва ўсіх гандлёвых аб'ектах пасля 23.00, на аўтазапраўках. Па статыстыцы мы бачым, што асноўнымі пакупнікамі алкаголю ў вячэрні час з'яўляюцца альбо п'яныя людзі, альбо моладзь. І лічым, што алкаголь не павінен прадавацца ва ўсіх гандлёвых аб'ектах пасля 23.00, бліжэй 500 метраў ад школьных, навучальных і культурных устаноў, за выключэннем рэстаранаў і кафэ, - адзначыў Шуневіч.

- Так, магчыма, у будучыні гэта будуць спецыялізаваныя аддзелы ў крамах ці ж спецыялізаваныя крамы, - дадаў ён. - Мы хочам сапраўды абмежаваць даступнасць алкаголю. Таму што мы не павінны змагацца з лобі гандлёвых сетак, мы не павінны ні з кім змагацца, акрамя злачыннасці. Мы проста павінны стварыць умовы ў дзяржаве, каб людзі выбіралі здаровы лад жыцця, а не злоўжыванне алкаголем.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Калектыву абласной пракуратуры Генпракурор Беларусі А. Канюк прадставіў новага пракурора вобласці Уладзіміра Сушчынскага, ураджэнца Калінкавіч, юрыста.

**Чашнікі.** З дазволу абласнога фонду Дзяржмаёмасці "Еўраопт" стварыў кампанію "Чысты исток 1872", пад такой назвай зноў тут, як пры цары, будуць выпускаць спірт.

**Мёры.** У абласную інвестыцыйную праграму на 2017 год уключылі толькі важныя аб'екты і даўгабуды, завершаць нарэшце здачу новай райбальніцы, яна ўзводзіцца ўжо 25 гадоў.

**Глыбокае.** Следчы камітэт пачаў разгляд справы былога начальніка аддзела адукацыі райвыканкама па абвінавачванні ў атрыманні хабару і маёмасных карысці.

**Орша.** Раніцай падчас правядзення зварачных работ з-за незахавання правілаў тэхнікі бяспекі ў адным з падсобных памяшканняў мясцовага мясакамбіната адбыўся пажар.

**Верхнядзвінск.** Глава МНС Беларусі У. Вашчанка ў райцэнтры ўрачыста адкрыў пасля рэканструкцыі пажарную аварыйна-выратавальную часць № 1, перадаў новую тэхніку.

**Браслаў.** У Друйскім дзіцячым доме пабываў генеральны дырэктар "Віцебскаблгазу" П. Шэршань і падараваў дзецям камп'ютар, прынтар, фотаапарат, спартінвентар і трэнажоры.

**Ушачы.** У райцэнтры справілі наваселлі жыхары новага 40-кватэрнага жылога дома, першага, пабудаванага Шумілінскай ПМК-70 для льготных катэгорый грамадзян.

**Віцебск.** На базе адпачынку ля вёскі Дрэколле ноччу загарэўся драўляны гасцявы дом, атрымала апёкі 30 % цела грамадзянка Расіі, яе шпіталізавалі, агонь знішчыў дах, сцены.

**Докшыцы.** Пяты год запар Бягомльскую дапаможную школу-інтэрнат наведаў старшыня парламенту У. Андрэйчанка і падараваў ёй 8 спартыўных трэнажораў, дзецям – цукеркі.

**Верхнядзвінск.** Трагічна закончылася вечарам у вёсцы Бароўка спрэчка 66-гадовых пенсіянераў, муж ударыў жонку па галаве куском металу, павесіўся, але жанчына выжыла.

**Наваполацк.** На дарозе на Полацк вечарам перакулілася на правы бок маршрутнае таксі, на шчасце, ніхто з 16 пасажыраў не пацярпеў, людзі пакінулі салон праз дзверы кіроўцы.

**Паставы.** Адразу два жыхары райцэнтра пенсіянер У. Бароўка і агент "Белдзяржстраху" А. Палякоўская выйгралі аўто "Хёндай-Грэта" ў гульні Еўраопта "Удача в придачу".

**Віцебск.** Фармацэўт Алеся Арцюхоўская выйграла ў знатакоў у фінале расійскай гульні інтэлектуалаў "Што?Дзе?Калі?" пытаннем пра прадпрымальнікаў, яе выйгрыш - 6700 $.

**Полацк.** Пастановай урада Беларусі горад атрымаў статус цэнтра міжнароднага турызму, цэнтрамі турызму і адпачынку нацыянальнага значэння сталі Віцебск, Браслаў і Паставы.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Як электразваршчык Віктар Каляга глыбоцкі бокс на еўрапейскі

■ Уладзімір Скрабатун

**25 лютага ў спартыўнай зале Глыбоцкага баксёрскага клуба "Рынг" адбыліся ўрачыстыя мерапрыемствы з нагоды 30-х угодкаў з дня стварэння баксёрскай секцыі на Глыбоччыне.**

**Усё гэта сталася магчымым, дзякуючы 30-гадовай аддадзенай працы трэнера Віктара Матвеевіча Калягі. Трыццаць гадоў працы, гэта: 1 год – Прошкава, 12 гадоў – Падсвілле, 17 гадоў – Глыбокае.**

**На ўрачыстасць, а таксама на двубоі юных баксёраў, прыехалі каманды з Мёраў, Наваполацка, Полацка, Віцебска, Астраўца і Мінска.**

**Для некаторых удзельнікаў гэта быў першы ў жыцці заліковы двубой. Страх і слёзы ў вачах некаторых самых юных перад першым сур'ёзным выпрабаваннем, а ў іншых наадварот – слёзы адчаю, бо трымаўся годна, не саступіў, але прайграў у родных сценах, на вачах маці і бацькі. Крыўдна! Але без гэтага – аніяк, ты мусіш урэшце стаць мужчынам!**

## Ёсць чым ганарыцца!

Сярод выхаванцаў трэнера Віктара Матвеевіча Калягі – 7 майстроў спорту, блізу 50 – кандыдатаў у майстры спорту, 29 выхаванцаў – накіравана ў вучэльню алімпійскага рэзерву. Двое выхаванцаў ездзілі на Чэмпіянат Еўропы, таксама двое – на Чэмпіянат Свету. Сярод іх – Аляксандр Астроўскі, які заняў 3-е месца на Чэмпіянаце Еўропы, удзельнік Чэмпіянату Свету; Дзмітрый Леановіч – удзельнік Чэмпіянату Свету 2007 года, заняў – 4-8 месца; Арцём Кісель, удзельнік Чэмпіянату Еўропы 2008 года, заняў 4-8 месца. Сёння ў трэнера – 50 выхаванцаў.

## Усё пачыналася з цеснага падвала 30 гадоў таму!

На ўрачыстай цырымоніі адкрыцця мерапрыемства з нагоды 30-х угодкаў заснавання секцыі бокса на Глыбоччыне трэнер Віктар Матвеевіч Каляга атрымаў шматлікія віншаванні, падарункі і зычэнні.

**Таццяна Малатоўнік** намеснік старшыні Глыбоцкага райвыканкама па сацыяльных пытаннях уручыла ад імя райвыканкама, савета дэпутатаў, прафсаюза сертыфікат на набыццё спартыўнага трэнажора.

Меў слова колішні кіраўнік раёна **Міхаіл Кандзерскі,** ініцыятар стварэння секцыі бокса ў Глыбоцкім раёне. Ён параўнаў Віктара Калягу са слынным мосарскім ксяндзом Ёзасам Булькам. Апошні шмат зрабіў для Мосара і для адраджэння духоўнасці на Глыбоччыне, а трэнер Каляга зрабіў вялікі ўнёсак для развіцця спорту, у прыватнасці, бокса на Глыбоччыне. Ёзас Булька і Віктар Каляга – па словах Міхаіла Кандзерскага – людзі, спасланыя нам Богам! На ўкладзены рубель Віктар Матвеевіч у выніку аддаваў шматкроць! За час трэнерства Віктара Калягі прайшлі праз яго выхаванне тысячы дзяцей! Гэта – узорныя дзеці! Раённая ўлада як раней, так і цяпер падтрымлівае, як можа, развіццё гэтага віду спорту на Глыбоччыне.

На ўрачыстасць з Віцебска завітаў **Віктар Зуеў,** заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь, срэбны прызёр Алімпійскіх гульняў 2004 года. Ён адзначыў: "Глыбoччына заўсёды была багатая на баксёраў, якія годна прадстаўлялі нашую краіну на еўрапейскіх і сусветных першынствах. І сёння, на гэтых спаборніцтвах, я хачу пабачыць сапраўдных глыбоцкіх баксёраў. Аднак не ведаю, на што разлічвае Глыбокае, але, я спадзяюся, Віцебск



Юныя выхаванцы Глыбоцкага клуба "Рынг" трэнера Віктара Матвеевіча Калягі (у цэнтры).




Трэніроўка юных баксёраў клуба "Рынг". Злева – Данііл Мішута (в. Карабы), справа – Кірыл Закрэўскі (Глыбокае, гімназія).




Гісторыя глыбоцкага бокса. 2006-ы год. Аляксандр Астроўскі (справа) – 3-е месца на Чэмпіянаце Еўропы ў вагавай катэгорыі да 64 кг. Быў удзельнікам Чэмпіянату Свету, на якім выйграў, праўда, адзін толькі двубой.

# З маленькага падвала вывеў і сусветны ўзровень!


Трэніруецца Максім Бельскі – сённяшняя надзея трэнера Віктара Калягі. Максім на першынсве Беларусі 2016 года сярод юніёраў, у вясновым сезоне заняў 3-е месца, у восеньскім – 2-е.

сёння перамога!"

Ад Раённага аб'яднання прафсаюзаў прамаўляла яго старшыня **Вера Цяліца,** якая распавяла гісторыю з'яўлення вялікага бокса на Глыбоччыне:

– Пачыналася ўсё ў 1987-м годзе ў падвале маленькага 2-павярховага дома, дзе электразваршчык Віктар Каляга прылучыў дзяцей да бокса. Не, я не памылілася – менавіта электразваршчык. Таму што, пасля службы ў арміі, у горадзе Рыга, з 1971 па 1975 гг Віктар Каляга пачаў займацца боксам. Стаў срэбным прызёрам Латвійскай ССР.

– Па вяртанні на радзіму працягваў займацца спортам, стаў прылучаць і дзяцей. Цеснага падвала ўжо ставала замала. Было вырашана пераехаць у Падсвілле, дзе таксама ў падвале школы працягвалі займацца боксам. Колькасць баксёраў ужо сягала аж да 200 юнакоў, якія былі сапраўды ўлюбёныя ў гэты від спорту. Так як бокс набыў масавы характар, а Падсвілле ўсё ж было ў баку, было вырашана перавесці секцыю бокса ў Глыбокае. У 2000-м годзе **Міхаіл Кандзерскі**, тагачасны кіраўнік раёна, і **Анатоль Дук,** дырэктар Глыбоцкага мясакамбіната, прапанавалі для секцыі адно з памяшканняў адміністрацыйнага корпуса мясакамбіната, дзе і сёння размяшчаецца баксёрскі клуб "Рынг". Міхаіл Міхайлавіч Кандзерскі, як Анатоль Андрэевіч Дук не толькі маральна падтрымлівалі, але асабіста займаліся вырашэннем шматлікіх пытанняў, якія дапамагалі станаўленню клуба, асабліва ў адсутнасць Віктара Матвеевіча Калягі, бо ён навучаўся ў Ленінградскім інстытуце фізічнай культуры і атрымаў дыплом па спецыяльнасці трэнера-выкладчыка фізічнай культуры. Пачалі ў трэнера выходзіць чэмпіёны! Чэмпіёны краіны і вобласці! За трыццаць гадоў выхаваў сем майстроў спорту, яго выхаванцы выступалі на Чэмпіянатах Еўропы і на Чэмпіянатах Свету, займалі там прызавыя месцы.

– Хачу адзначыць адну цікавую акалічнасць.



Віктар Зуеў, срэбны прызёр Алімпійскіх гульняў 2004 года з сімвалічным алімпійскім факелам сярод юных глыбоцкіх баксёраў.

Гэты юбілей і турнір мы прымеркавалі да мужчынскага свята, але і крыху пасярод – і паміж жаночым! Справа ў тым, што ў 2012 годзе чэмпіёнам Рэспублікі Беларусь стала выхаванка Віктара Матвеевіча – **Яна Жукоўская.**

Выхаванцы Віктара Матвеевіча выходзілі на рынгі ўсіх абласных гарадоў Беларусі, а таксама рынгі Даўгаўпілса, Вільні, Алітуса, Клайпеды, Ленінграда, Пскова, Вялікіх Лук, Ноўгарада, Уладзіміра – і перамагалі! Аб гэтым сведчаць шматлікія кубкі, медалі і граматы. Публікацыі пра глыбоцкі бокс ёсць у падшыўках газет, пачынаючы з 1992-га па 2017 год. Гэта – гісторыя! Гэта – ужо легенда!

**Аляксей Акулёнак**, якога ведаюць далёка за межамі нашага горада, і які "умее зарабляць грошы ды шчодра дзяліцца імі з іншымі", у сваёй прамове адзначыў:

– Бокс на Глыбоччыне мае даўнія традыцыі. У 1973-74 гг у раён прыехаў **Пётр Сяргеевіч Клімяценка,** выпускнік Віцебскага медыцынскага інстытута. Тады быў пабудаваны спартыўны комплекс на стадыёне. Пётр Сяргеевіч адкрыў там секцыю. Прывёз пальчаткі, якія мы перашывалі, падганялі. Я – адзін з яго выпускнікоў. Ён даў мне пуцёўку ў жыццё. Гэта стала маёй прафесіяй, за гэта я яму вельмі ўдзячны! Як удзячныя сёння Віктару Матвеевічу яго выхаванцы!

Спартсмены – адна вялікая дружная каманда. Для чалавека, які прайшоў праз спорт, не знікае ўсё проста так бясследна! Нават калі ёсць цяпер нейкія "цёркі" у распранальні, паверце, калі вырасцеце, вы потым па жыцці станеце вялікімі сябрамі і будзеце падтрымліваць адзін другога.

Я са свайго боку аказваў і буду аказваць глыбоцкаму боксу ўсялякую матэрыяльную дапамогу!"

## Для кагосьці гэты двубой быў у жыцці самым першым выпрабаваннем!

Пасля ўрачыстай цырымоніі з віншавальнымі прамовамі, уручэннем прызоў і падарункаў, пачаліся спаборніцтвы паміж юнымі баксёрамі. У Глыбокае прыехалі каманды юных баксёраў з Мёраў, Наваполацка, Полацка, Віцебска, Астраўца і Мінска. Найболей прадстаўнічыя каманды былі ад Наваполацка і Полацка. Галоўны суддзя спаборніцтваў – Віктар Матвеевіч Каляга.

Для кагосьці гэты двубой быў у жыцці самым першым выпрабаваннем! Адбылося пад 40 двубояў юных спартсменаў не толькі розных вагавых катэгорый, але і ўзроставых, самым малодшым не было і сямі гадоў.

Арганізатары парупіліся, каб пераможцам у двубоях гэтае свята запомнілася надоўга, а то і на ўсё далейшае спартыўнае жыццё. Пераможцы атрымлівалі першы свой "залаты" медаль, Дыплом за 1-е месца і салодкі ласунак – шакаладку. Прайгранаму – што зробіш – толькі шакаладку! Трэніруйся! У цябе, зыходзячы з твайго ўзросту, усё яшчэ наперадзе.

Як юныя глыбачане, так і юныя госці з іншых гарадоў вобласці і краіны, прыйшлі ці прыехалі не толькі са сваімі трэнерамі, але і з бацькамі. Гэта быў для юных баксёраў самы важны іспыт, найперш перад бацькамі. Яны не менш за сваіх сыноў хваляваліся, заўзелі, суцяшалі за пройгрыш, падтрымлівалі маральна. Бо бокс не толькі радасць перамог, але і траўмы, сінякі, боль, пот і часам кроў.

Свята глыбоцкага бокса атрымалася масавым. На яго прыйшло і прыехала шмат гасцей і ўдзельнікаў, таму і вялікая некалі спартыўная зала падалася ўжо замалай.

Хацелася б пажадаць Віктару Матвеевічу Калягу далейшых поспехаў! Усё, што ён робіць, робіць для славы нашага глыбоцкага спорту, для славы вобласці і нашай краіны, Рэспублікі Беларусь. І, хацелася б, каб пашанцавала знайсці фундатараў на ўзвядзенне адмысловага свайго будынка для баксёрскага клуба "Рынг"!


Анастасія Ліскова з сынам Глебам прыехалі з Наваполацка ў Глыбокае толькі за медалём! Глеб спраўдзіў спадзяванні маці – першае месца, медаль і дыплом.


Рашучая атака!

# У Эстоніі за выпальванне сухой травы – штраф у $1000, а ў нас – толькі ад 10 да 40 б/в

*А.Г. Лукашэнка запатрабаваў узмацніць меры адказнасці за выкід смецця не толькі ў лясах і на азёрах, але ўздоўж дарог, у населеных пунктах.*

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Рэспубліка Беларусь здаўна славілася сваімі прыроднымі багаццямі. Толькі фонд рыбалоўных угоддзяў у наш час складае больш за 10 тысяч азёр агульнай плошчай 134 тыс.гектар, 80 тысяч гектараў вадасховішчаў, 90 тысяч кіламетраў вялікіх і малых рэк. Агульная плошча паляўнічых угоддзяў у Беларусі складае больш за 18 мільёнаў гектараў.**

З набліжэннем вясны і цёплых дзён насельніцтва актыўна пачне займацца гародамі і прысядзібнымі ўчасткамі, грамадзяне паляць траву, іржышча, мяркуючы па сваёй наіўнасці, што тым самым яны палепшаць сенажаці, але ж падчас спальвання сухой травы ў першую чаргу гіне каранёвая сістэма лепшай травы, а замест травы багата пачынаюць расці пустазеллі. Падчас пажараў шмат гіне птушак, маладняк зайца-русака і іншых дзікіх жывёл.

За выпальванне сухой расліннасці, травы на корані, а таксама ржышча і пожніўных рэштак на палях або непрыняцце мер па ліквідацыі палаў на зямельных участках – цягне накладанне штрафу ў памеры ад 10 да 40 базавых велічынь, а ў Эстоніі штраф 1000 даляраў ЗША. Таму грамадзянам трэба задумацца, спальванне сухой травы можа прывесці да чалавечай трагедыі, згубы маёмасці. З законам гуляць не варта.

Шмат на тэрыторыі раёна і несанкцыянаваных звалак. "Прыбіраючы назапашанае за зіму смецце, грамдзяне вывозяць яго ў лес, найбліжэйшыя хмызнякі, але гэта ўсё – незаконна і пагражае велізарным штрафам. Смецце вывозяць у лес паблізу вёсак, пакідаюць уздоўж дарог, ля вадаёмаў Атрымліваецца, як у дрэннай гаспадыні, смецце змялі ў кут і прыкрылі венікам, жывём як на звалцы, усе бачаць, але маўчаць, не жадаюць сварыцца, бо кінулі не да мяне ў гарод

У перыяд з 17 па 19 лютага 2017 года супрацоўнікамі міжрайінспекцыі сумесна з працаўнікі міліцыі, прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі правялі адпрацоўку вадаёмаў найболей масава наведвальныя грамадзянамі, усяго адпрацавана 16 азёр раёна. У цэлым можна сцвярджаць, што смецця на ледзяным полагу вадаёмаў стала значна менш, рэдка ўбачыш кінутую пустую бутэльку, пачкі ад цыгарэт, але ўсё ж яшчэ знаходзяцца асобныя рыбаловы-аматары, якія пакідаюць пасля сябе побытавае смецце. У першую чаргу вакол месцаў лоўлі былі пакінуты недакуркі ад цыгарэт, запалкі, бутэлькі. З правераных больш за 70 чалавек, 12 грамадзян былі папярэджаны пра неабходнасць прыбраць побач сябе смецце, усім раздадзены прафілактычныя напамінкі, падчас праверкі вадаёмаў інспектары адказалі на пытанні, якія цікавяць грамадзян. Прафілактычныя мерапрыемствы прайшлі з узаемнай карысцю і паказалі, што ўзровень культуры, законапаслухмянасць нашых рыбаловаў значна павялічылася.

Падчас рэйдавых мерапрыемстваў інспектары па паведамленні грамадзян затрымалі двух жыхароў раёна за незаконную парубку лесу, усяго парушальнікі паспелі высечы больш за 8 м.куб драўніны, далейшыя іх незаконныя дзеянні спынілі інспектары. Парушальнікі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 5 базавых велічынь кожнаму і пакрыцця прычыненай шкоды на суму больш 700 рублёў.

Падчас рэйду інспектары і працаўнікі міліцыі заехалі ў в. Бычкова, што размешчана на беразе ракі Бярозаўка, і што ўбачылі? Хаты знаходзяцца побач з ракой, і ўсё побытавае смецце жыхары скідаюць на беразе ракі. Улічваючы, што ў асноўнай сваёй масе жыхары вёскі – пенсіянеры, інспектары не сталі ўжываць меры адміністрацыйнага ўздзеяння, абмежаваліся гутаркамі і далі час прыбраць смецце, а праверка пройдзе праз 20 дзён.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Г. Лукашэнка запатрабаваў узмацніць меры адказнасці за выкід смецця не толькі ў лясах і на азёрах, але ўздоўж дарог, у населеных пунктах. Жыхары раёна вельмі часта ператвараюць аўтобусныя прыпынкі, прыдарожныя канавы ў звалкі, маўляў, дарожныя службы прыбяруць, але дарожныя працоўныя не прыбіральнікі. Парушальнікаў заканадаўства чакае грашовы штраф.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз просіць грамадзян строга выконваць прыродаахоўнае заканадаўства, любіць і берагчы нашу прыроду, не быць абыякавымі да засмечвання лясоў, браканьерства. Тэлефоны Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 5-59-80 "гарачая лінія" – кругласутачна, 897-23-02; 890-55-28; 249-45-49; 645-66-78-мтс.

**Агіднае відовішча! Жыхары вёскі Бычкова злівалі памыі і скідвалі побытавае смецце на бераг ракі Бярозаўкі (Беразвіцы). За такое – непад'ёмны штраф! Пенсіянерам неймаверна пашанцавала, інспектары злітаваліся. Але зноў прыедуць праз 20 дзён!** *Фота Леаніда Юрыка.*

## Прыродныя цікавосткі Глыбоччыны:

# Кладофара

**Уладзімір Скрабатун**

Часта бывае, што знаходка нейкай цікавосткі становіцца вынікам збегу пэўных абставінаў. Не трапіў бы на бераг возера Пліса Малая, што ля Мосара, то і не ведаў, што ў вадаёме расце досыць цікавая водарасць.

Было цёплае лета. Знаёмыя хлопцы-калекцыянеры запрасілі маладога мінскага археолага Максіма Чарняўскага на бераг Плісы Малой з падазрэннем на тое, што тут магло быць старажытнае паселішча. Дасведчаныя археолагі, а таксама людзі, якія цікавяцца гісторыяй, вызначаюць гэта вельмі хутка. На тое ёсць пэўныя прыкметы: колер узаранай зямлі на месцы колішняга паселішча значна цямнейшы, чым там, дзе ніколі не жылі людзі, наяўнасць керамікі (чарапкі посуду)...

Патрапіў за кампанію і аўтар гэтых радкоў.

Аднак гэта не з'яўляецца тэмай нашага апавядання. Проста, такі быў збег абставінаў.

Натуральна, вырашылі пакупацца. Вада цёплая. Праходзіш крокаў пятнаццаць – глыбіня па калена, крок далей – "прыступак" – адразу паглыбленне большае за паўметра, далей – толькі глыбей!

Згадалася, як колісь да аўтара гэтых радкоў завітаў яго бацька, таксама вядомы археолаг в.п. Міхась Чарняўскі.

– Што капаем?– пытаю.

– Тарфяныя стаянкі ў Бешанковіцкім раёне.

– Чаго старажытныя людзі палезлі жыць у балота? Няўжо ля рэк і азёраў не было сухіх месцаў?

– Паўтары тысячы гадоў таму на Беларусі клімат быў цёплы і сухі. Потым пахаладнела, клімат стаў больш вільготны, вада на нашай тэрыторыі ўзнялася на 1,5-2 метры. Стаянкі апынуліся пад вадой. Іх зацягнула глеем і торфам. Такі халодны і вільготны клімат захаваўся і да сёння.

Пераказваю Максіму сэнс колішняй гутаркі з яго бацькам.

– Так! Гэты "прыступак" і быў берагам возера (Плісы Малой)паўтарытысячыгадоў таму. Больш таго – і рэльеф мяняецца цяпер. У тым, што мялеюць рэкі, вінаватыя не толькі меліяратары. Зямля і сёння, пасля сыходу ледавіка, скінуўшы цяжар, выпростоўваецца. Ну, гэта выглядае так, як быццам вы сціснулі пальцамі паветраны шар – ён увагнуўся ўнутр, адпусцілі – выпрастаўся.

Вось тут мы і падыходзім да знаходкі адной прыроднай цікавосткі. Ад гэтай "прыступкі" – далей углыб – пад нагамі пачало трапляцца нешта мяккае і пухнатае. І не адзін раз, каб на тое не звяртаць увагі. Шторaз!



**Кладофара шарападобная альбо эгаграпіла** (Cladophora aegagropila) **у акварыуме.**

Дастаю з-пад ног адзін цёмна-зялёны мяккі і пухнаты шарык велічынёй з хакейны мячык, другі, трэці... Неверагодна! Што гэта? Азёрная жыўнасць ці водарасць? Так і не знайшлі тады адказу.

Прайшло гадоў пяць... Усё ж не можа быць, каб ніхто не ведаў!

Тэлефаную Аляксандру Красілевічу, біёлагу, які некалі быў экскурсаводам па нашым Цэнтры Еўропы.

– Цёмна-зялёныя водарасці, велічынёй з тэнісны ці хакейны мяч? – перапытвае Аляксандр.

– Так!

– Гэта – кладофара. Яе любяць акварыумісты змяшчаць у акварыум.

Ведаючы цяпер назву расліны, можна і даведнікі пагартаць!

### Асяроддзе пасялення

Гэта сімпатычная расліна, якая мае выгляд пухнатага зялёнага шарыка, у прыродзе насяляецца ў вадаёмах гор і раўнін усёй Еўразіі – ад Ціхага да Атлантычнага акіяна. Аддае перавагу чыстай вадзе і сустракаецца як на мелкаводдзі, так і на глыбінях да 30 метраў. Часам кладофара сустракаецца ў выглядзе плоскіх падушак.

### Форма

Кладофара ўяўляе сабою шчыльны цёмна-зялёны шар, утвораны калоніяй зялёных ніткавых водарасцяў. Дыяметр расліны – 10-12 см. Але пры вызначанай колькасці неабходных арганічных пажыўных рэчываў у прыродзе кладофара можа дасягаць памеру чалавечай галавы. Рост яе, аднак, адбываецца вельмі павольна, каля 5-10 мм у год. Усярэдзіне калоніі радыяльна размешчаны ніткі водарасцяў. З узростам усярэдзіне ўтворыцца пустэча. Кладофара вельмі рэдка прымацоўваецца да субстрата.

### Утрыманне ў акварыуме

Кладофара карыстаецца папулярнасцю сярод акварыумістаў дзякуючы сваёй высокай дэкаратыўнай каштоўнасці: касматыя шарыкі насычана-зялёнага колеру выглядаюць вельмі прывабна і незвычайна. Але, акрамя вонкавага выгляду, гэта расліна каштоўная таксама і тым, што служыць добрай **крыніцай кіслароду і выдатным натуральным фільтрам**, прапускаючы праз сябе вялікі аб'ём вады. Кладофары для раўнамернага круглагадовага развіцця патрэбная халодная вада 18-20 °C. Калі тэмпература перавышае 22 °C, яна пачынае расці бурна і неўзабаве распадаецца на часткі. З іх могуць у далейшым развіцца новыя шарыкі, аднак гэты працэс будзе праходзіць вельмі доўга.

Грунт у акварыуме можа быць любы, для кладофары ён не грае ролі, паколькі яна вольна плавае ў вадзе, не прымацоўваючыся да субстрата. Некаторыя акварыумісты аддаюць перавагу ўтрымоўванню кладофары ў плоскім выглядзе. Для гэтага нажніцамі разразаюць і выраўноўваюць яе так, каб атрымалася плоская падушачка, затым лескай прымотваюць да каменя і апускаюць на дно. Праз час леска становіцца не бачная і кладофара выглядае як зялёны астравок.

### Размнажэнне

Кладофара размнажваецца вегетатыўна, дзяленнем, распадам (ці фрагментацыяй) расліны. Гэта ажыццяўляецца двума спосабамі. Па-першае, можна механічна дзяліць кладофару на меншыя часткі, а па-другое, распаду можна дамагчыся зменай тэмпературы. Калі падняць яе да 24°C, калонія распадзецца, а затым, падтрымліваючы тэмпературу 18-20°C, можна чакаць утварэння з яе частак новых шарыкаў. Для гэтага часцей за ўсё распалую расліну змяшчаюць у асобную ёмістасць. Але варта заўважыць, што рост кладофары адбываецца вельмі павольна, таму новыя шарападобныя калоніі ўтворацца толькі праз годпаўтара. У цэлым, хуткасць росту складае каля 5-10 мм у дыяметры ў год. Такім чынам, кладофара дыяметрам у 20 см мае ўзрост каля 15 гадоў!

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»

## ПАНЯДЗЕЛАК, 6 сакавіка

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Главный эфир.
**10.20** Клуб редакторов.
**11.00** 90 секунд.
**11.05** Мелодрама «Вернешься - поговорим» (Россия-Украина).
**12.00** Новости.
**13.00** 90 секунд.
**13.10** Мелодрама «Вернешься - поговорим» (Россия-Украина).
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.25** Комедийный сериал «Сваты-4» (Украина) <*>.
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Комедийный сериал «Сваты-5» (Украина) <*>.
**17.40** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Арена.
**19.40** Зона Х.
**20.00** «Форум» с Дмитрием Бочковым.
**21.00** Панорама.
**21.45** Детективный сериал «След» (Россия) <***>.
**23.20** Зона Х.
**23.40** Новости.
**23.55** День спорта.
**00.10** Приключенческий сериал «Второе восстание Спартака» (Россия) <***>.

### ОНТ

**06.00**, **06.30**, **07.00**, **07.30**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**08.00** Наши новости (с субтитрами).
**08.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости (с субтитрами).
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Модный приговор».
**12.10** «Наедине со всеми».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.15** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Время покажет».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта (с субтитрами).
**18.20** Сериал «Папины дочки».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Дело принципа».
**22.15** «Все сложится».
**22.55** «Хроника Минского гетто. Рожденные дважды».
**23.55** «Вечерний Ургант».
**00.30** Ночные новости.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Телеутро.
**09.05** Фильм для детей. «Дьявол с тремя золотыми волосками» (Германия) <*>.
**10.05** Телебарометр.
**10.40** Копейка в копейку.
**11.20** Комедийный сериал «Счастливы вместе 4» (Россия) <***>.
**13.10** «Любовь онлайн «. Реалити-шоу (Украина).
**14.20** Два рубля.
**14.40** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу (Украина).
**15.50** «Универ-шеф».
**16.25** Фильм-фэнтези «Необычайные приключения Адель» (Франция-США) <*>.
**18.20** «Икона стиля». Фэшн-шоу (Украина).
**19.20** Репортер.
**20.05** «Свадьба вслепую». Реалити-шоу (Украина).
**21.25**, **22.05** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу (Украина).
**22.00** КЕНО.
**22.30** Телебарометр.
**22.35** «Верните мне красоту». Медицинское реалити (Украина).
**23.50** «Пин_код».

### 3 БЕЛАРУСЬ

**07.00** «Дабраранак».
**07.35** «Беларуская кухня».
**08.00** «Калейдаскоп». Навіны культуры.
**08.20** Мультфільмы <0>.
**09.00** «Дрэва жадання». Драма (СССР, 1976 г.) <*>.
**10.40** «Гітара па крузе».
**11.35** «Святло далёкай зоркі».
**12.00** «Калейдаскоп». Навіны культуры.
**12.15** «Нацыянальны хіт-парад».
**13.10** «Размаўляем па-беларуску». Тэлевіктарына.
**13.35** «Дрэва жадання». Драма (СССР, 1976 г.) <*>.
**15.15** «Героі. Асабовая справа». Сяргей Пракоф'еў <*>.
**15.55** «Цыган». Драма. (СССР, 1979 г.) <*>.
**18.55** «Галасы часу». Анатоль Кашапараў.
**20.20** «Калейдаскоп». Навіны культуры.
**20.40** «Калыханка».
**21.00** «Камертон».
**21.25** «Цыган». Драма. (СССР, 1979 г.) <*>.

### СТВ

**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.25** «Большой завтрак»
**10.05** «Всем по котику».
**10.30** «24 часа».
**10.45** «Знахарь». Сериал.
**12.30** «Званый ужин».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Деньги не пахнут». Документальный проект.
**14.30** «Самая полезная программа».
**15.20** «Ремонт по-честному».
**16.00** «Следаки». Сериал.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Большой город».
**17.25** «Минщина».
**17.35** «Званый ужин».
**18.35** «Самые шокирующие гипотезы».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**22.30** «24 часа».
**23.00** «СТВ-спорт».
**23.05** «Тайны Чапман».
**00.00** «Знахарь». Сериал.

### БЕЛАРУСЬ РТР

**07.00** «Утро России».
**10.00** «Картина мира»
**10.55** Погода на неделю.
**11.00** Вести.
**11.40** Ток-шоу «Что происходит».
**12.50** «Комната смеха».
**13.35** «Наше дело».
**13.50** Новости – Беларусь.
**14.00** Вести.
**14.35** «О самом главном». Ток-шоу.
**15.40** «Прямой эфир».
**16.50** Новости – Беларусь.
**17.00** Вести.
**17.20** Сериал «Вероника. Беглянка».
**19.15** Сериал «Почтальон».
**19.50** Новости – Беларусь.
**20.00** Вести.
**20.40** Сериал «Почтальон».
**22.00** Сериал «Екатерина. Взлет».
**23.00** Новости – Беларусь.
**23.10** Сериал «Екатерина. Взлет».
**00.00** «Вечер с Владимиром Соловьевым».

### НТВ БЕЛАРУСЬ

**05.55** «Астропрогноз».
**06.00** Сегодня.
**06.10** «Таинственная Россия» <***>.
**07.00** Сегодня.
**07.05** Детектив «Адвокат» <***>.
**08.00** Сегодня.
**08.10** Детектив «Адвокат».
**09.05** Сериал «Возвращение Мухтара» <***>.
**10.00** Сегодня.
**10.20** Детектив «Пасечник» <***>.
**12.00** Суд присяжных.
**13.00** Сегодня.
**13.25** Обзор. Чрезвычайное происшествие.
**14.05** Сериал «Патруль» <***>.
**16.00** Сегодня.
**16.30** Обзор. Чрезвычайное происшествие.
**17.05** Сериал «Улицы разбитых фонарей» <***>.
**18.00** «Говорим и показываем».
**19.00** Сегодня.
**19.45** Криминальный боевик «Цезарь» <***>.
**21.30** Сериал «Учитель в законе. Схватка».
**23.10** «ЧП.by».
**23.30** «Итоги дня».
**00.00** «Поздняков».
**00.10** «Тоже люди». Алексей Немов.

### МИР

**06.00** Мультфильм «Маша и Медведь» <0>.
**07.30** Доброе утро, мир! <***>.
**09.00** Худ.фильм «Все в жизни бывает» <***>.
**12.30** Кулинарное шоу «Бремя обеда» <*>.
**13.00** Новости (бегущая строка).
**13.15** «Нет проблем!» <***>.
**14.55** Док.фильм «Семейные драмы» <***>.
**16.00** Новости (бегущая строка).
**16.15** Телесериал «Возвращение Мухтара-2» <***>.
**19.00** Новости (бегущая строка).
**19.20** Телесериал «Закон и порядок» <***>.
**22.10** Худ.фильм «Папа напрокат» <***>.
**00.00** Телесериал «Спрут» <***>.
**02.15** Худ.фильм «Все в жизни бывает» <***>.
**05.15** Телесериал «Закон и порядок» <***>.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў
**07.15** ПраСвет
**07.50** Над Нёмнам
**08.05** Людскія справы. На мяжы з «русским миром»
**08.35** Зона «Свабоды»
**09.15** Эксперт
**09.40** Пракурор, дэтэктыўны серыял
**10.25** Гістарычны даведнік Багуслава Валашаньскага, дак. серыял
**10.50** Мова нанова. Старажытныя традыцыі
**11.15** Эльдарада – паляванне на легенду, д/ф
**12.05** Форум
**12.50** Кінаклуб. «Для Элен»
**13.00** Для Элен, м/ф
**14.35** Пад каўпаком, д/ф
**15.50** Эксперт
**16.15** І-тым, д/ф
**17.40** Сведкі
**18.00** Студыя «Белсат»
**18.35** Размова дня
**18.55** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19.05** Асабісты капітал
**19.30** Студыя «Белсат»
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** Загадкі беларускай гісторыі.
**21.45** Сведкі
**22.00** Кінаклуб. «Малады Адам»
**22.15** Малады Адам, м/ф
**23.50** Студыя «Белсат»
**00.50** Аб'ектыў
**01.10** Перапынак у трансляцыі

# Ізноў нагадваем аб набліжэнні абмежаванняў на лоўлю рыбы

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

**З надыходам вясны для рыбаловаў-аматараў уступілі ў дзеянні і першыя абмежаванні на аматарскую лоўлю рыбы, дакладней, на вылоўліванне асобных відаў рыбы і водных жывёл.**

Паводле Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў Рэспубліцы Беларусь, у мэтах захавання рыбных рэсурсаў і стварэння спрыяльных умоў для ўзнаўлення Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя можа усталёўваць абмежаванні і забароны на прамысловае і аматарскае рыбалоўства, лоўля асобных відаў рыбы, у асобных рыбалоўных угоддзях, у вызначаныя тэрміны, а таксама на выкарыстанне асобных прылад і (ці) спосабаў рыбалоўства.

Лоўля ўсіх відаў рыбы ў рыбалоўных угоддзях забараняецца на тэрыторыі Віцебскай вобласці **з 10 красавіка па 8 чэрвеня**, за выключэннем, аматарскага рыбалоўства, якое здзяйсняецца адной вудай з адным кручком ці адным спінінгам, абсталяваным штучнай прынадай, з адным адзінарным, ці падвойным, ці патройным кручком у светлы час сутак з берага (без заходу ў ваду) або з лёду, са штучных збудаванняў.

У гэты перыяд забаронена выкарыстанне гамодзянамі плаўсродкаў усіх відаў, для перасоўвання па вадзе.

Акрамя ўказаных забарон Правілы прадугледжваюць уводзіны забароны на лоўлю асобных відаў рыбы, так:

**● Віцебская вобласць – забарона на лоўлю шчупака звычайна настае з 9 сакавіка да 25 красавіка ўключна. За незаконнае вылоўліванне шчупака ці знаходжанне ў рыбалоўных угоддзях з асобінамі шчупака прадугледжана адміністрацыйная або крымінальная адказнасць.**

**● лоўля судака забароненая з 15 красавіка па 30 траўня,**

**● лоўля сома звычайнага забароненая з 31 траўня па 1 ліпеня ўключна.**

Грамадзяне, затрыманыя ў рыбалоўных угоддзях у перыяд забароны, з асобінамі шчупака будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці ў памеры ад 20 да 50 базавых велічынь, а шкода за вылаўленую рыбу спаганяецца ў 3-х кратным памеры.

У выпадку, калі сума прычыненай шкоды будзе перавышаць 100 базавых велічынь, у стаўленні парушальніка ўзбудзяць крымінальную справу па арт. 281 КК РБ.

Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі ў перыяд наступлення вясновых забарон і абмежаванняў дзейнічаюць у поўным аб'ёме, і работа за іх выкананнем толькі ўзмацняецца.

Паважаныя аматары рыбалкі, калі ласка, будзьце гаспадарамі не толькі ў сябе дома, але і, знаходзячыся на прыродзе, захоўвайце чысціню нашых прыгожых вадаёмаў, лясоў.

Па ўсіх пытаннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце патэлефанаваць на нумар "гарачай лініі" Глыбоцкай міжрайінспекцыі: **5-59-80 ці маб. мтс: 897-23-02, 645-66-78, 890-55-28, 249-45-49.**

# Электраэнергія з Полацкай ГЭС пачала паступаць у сетку

Сяржук Серабро

**23 лютага гідраагрэгат №3 Полацкай ГЭС быў уключаны ў сетку пасля правядзення пявузлавой прыёмкі абсталявання і перадкомплексных індывідуальных выпрабаванняў.**

Генератар турбіны Г-3 з'яўляецца адным з пяці гідраагрэгатаў Полацкай ГЭС, гарызантальныя турбіны тыпу Каплан выраблены чэшскай кампаніяй «Mavel a.s.». Першы з запушчаных гідраагрэгатаў у рамках комплекснага апрабавання прапрацуе на працягу 720 гадзін (30 сутак), паведамляецца на сайце «Віцебскэнерга».

Як ужо паведамлялася, у верасні 2016 года машынная зала Полацкай ГЭС была перададзена адмыслоўцам кампаніі «Mavel», якія пачалі паралельна мантаваць абсталяванне на ўсіх гідраагрэгатах.

Агрэгаты электрастанцыі будуць падключацца да сеткі паэтапна з улікам прагназуемага ўзроўню вады ў Дзвіне. Цалкам запусціць Полацкую ГЭС, магутнасць якой складзе 21,66 Мвт, плануюць не пазней лета 2017 года.

Будаўніцтва Полацкай ГЭС у пойме Дзвіны ажыццяўляецца ў рамках Дзяржаўнай праграмы развіцця Беларускай энергетычнай сістэмы. Кошт праекта складае звыш 140 000 000 даляраў, для будаўніцтва выкарыстоўваецца крэдыт Еўразійскага банка развіцця (ЕАБР) на 100 000 000 даляраў.

1 сакавіка – Міжнародны дзень барацьбы з наркаманіяй і наркабізнесам

# Наркаманія пхае чалавека да дэградацыі

**Кацярына Волахава,**
*урач-гігіеніст.*

Сёння наркаманія закранула ўсе краіны свету, колькасць тых, якія ўжываюць наркотыкі перавышае 200 млн. чалавек. У Рэспубліцы Беларусь сітуацыя з наркаманіяй і незаконным зваротам наркотыкаў працягвае заставацца напружанай, але кантраляванай дзякуючы цеснаму ўзаемадзеянню аховы здароўя, праваахоўных органаў і грамадзянскай супольнасці. У Рэспубліцы Беларусь на 1 студзеня 2016 года пад назіраннем урачоў псіхіятраў-нарколагаў знаходзіцца каля 14,5 тысяч нарказалежных чалавек (на 5,7% менш, чым у 2014 годзе).

Надзвычайны факт, які насцярожвае, з'яўляецца тое, што сучасныя наркатычныя сродкі здольныя сфармаваць наркатычную залежнасць літаральна за некалькі прыёмаў. Наступствы гэтага захворвання надзвычай небяспечныя, бо адбываецца грубыя парушэнні функцый унутраных органаў, нервовай сістэмы і дэградацыя асобы. Наркаманы схільныя рызыцы заражэння і спрыяюць распаўсюду ВІЧ-інфекцыі, віруснага гепатыту, венерычных хвароб і іншых небяспечных інфекцыйных захворванняў. Таксама ў апошнія гады было зарэгістравана павелічэнне колькасці смяротнасці грамадзян ад перадазіровак наркатычнымі сродкамі (у 2014 годзе – 53 чал., у 2013 годзе – 83 чал.).

Наркаманія ўяўляе пагрозу жыццю і здароўю не толькі для асобнага чалавека. Яна ўяўляе небяспеку для ўсяго грамадства. Большасць наркаманаў не працуе, паколькі яны здольныя да працоўнай дзейнасці толькі напачатку захворвання і ў большасці выпадкаў, толькі ў стане наркатычнага ап'янення.

Апроч таго, што наркаманія прыводзіць да фізічнай, маральнай і сацыяльнай дэградацыі асобы, яна пхае "страціўшых сябе" і страчаных людзей на злачынствы. Наркаманію варта разглядаць як бедства, супраць якога грамадства павінна ўзвесці непераадольны бар'ер. Праблема распаўсюду наркаманіі займае не апошняе месца і ў ліку чыннікаў высокай смяротнасці, нізкай нараджальнасці і недапушчальна нізкай сярэдняй працягласці жыцця ў рэспубліцы.



Варта адзначыць, што ў апошнія гады шырокі распаўсюд атрымалі так званыя "спайсы". Гэта адмысловыя курыльныя сумесі, у склад якіх увахозіць трава і сінтэтычныя рэчывы, іншымі словамі сыравіна ў выглядзе цалкам бяспечнай курыльнай травы, апрацаванай моцнадзейнымі псіхатропнымі рэчывамі, якія і выклікаюць некантралюемыя рэакцыі. Самае страшнае, што паводле дадзеным, асноўным кантынгентам з'яўляюцца дзеці ва ўзросце ад 13 да 20 гадоў.

Тут самае галоўнае нікому не заставацца абыякавым і не думаць, што гэта мяне не датычыць. Гэта значыць, калі Вы ведаеце пра незаконны распаўсюд ці захоўванне наркатычных рэчываў, то неадкладна звяртайцеся ў міліцыю на нумар 102 і паведаміце пра правапарушэнне. Калі дапамога патрэбная Вам ці блізкім вам людзям у барацьбе з нарказалежнасцю, то таксама звяртайцеся за дапамогай ва ўстановы аховы здароўя.

# Паступайце ў навучальныя ўстановы МНС Рэспублікі Беларусь

У наш час Глыбоцкі раённы аддзел праводзіць адбор кандыдатаў для накіравання на паступленне ва Універсітэт грамадзянскай абароны Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь і Спецыялізаваны ліцэй пры Універсітэце грамадзянскай абароны Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь.

На навучанне ва ўніверсітэт прымаюцца грамадзяне Рэспублікі Беларусь – юнакі і дзяўчыны ва ўзросце ад 17 да 25 гадоў. Абітурыенты здаюць уступныя іспыты па беларускай або рускай мове на выбар, фізіцы і матэматыцы ў форме цэнтралізаванага тэставання, які праводзіцца Міністэрствам адукацыі. Навучанне ажыццяўляецца як на бюджэтнай, так і на платнай аснове. Тэрмін навучання на вочнай форме навучання – 4 гады. Матэрыяльнае і тэхнічнае абсталяванне ўніверсітэта з'яўляецца адным з лепшых у рэспубліцы. Курсанты знаходзяцца на поўным дзяржзабеспячэнні, забяспечваюцца жыллём, харчаваннем, абмундзіраваннем, медыцынскім абслугоўваннем, стыпендыяй у памеры больш за **200** рублёў. У перыяд вучобы ўсе курсанты маюць права бясплатна прайсці навучанне на права кіравання аўтатранспартам і атрымліваюць пасведчанне кіроўцы.

Ва ўніверсітэце створаныя ўсе ўмовы для самарэалізацыі асобы навучэнца, магчымасць правядзення навуковых даследаванняў пад кіраўніцтвам выкладчыка, заняткі спортам (ва ўніверсітэце дзейнічае 11 спартовых секцый), удзел у творчых калектывах (КВЗ, вакальна-інструментальны ансамбль, харэаграфічныя групы).



Ліцэй МНС з'яўляецца сучаснай установай агульнай сярэдняй адукацыі з вывучэннем асобных навучальных прадметаў на падвышаным узроўні, накіраваных на падрыхтоўку навучэнцаў да паступлення ва Універсітэт грамадзянскай абароны Міністэрства па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь і іншых органаў дзяржаўнага кіравання.

У Ліцэі на працягу 5-ці гадоў (з 7-га па 11-ы класы) ва ўмовах кругласутачнага пражывання праходзяць навучанне асобы мужчынскага полу, якія завяршылі навучанне ў 6-ым класе на 2-ой ступені агульнай сярэдняй адукацыі. Навучэнец Ліцэя знаходзіцца на поўным Дзяржаўным забеспячэнні (абмундзіраванне, 5-разавае харчаванне, пражыванне, медыцынскае абслугоўванне), выпускнікі Ліцэя (на апошнім годзе навучання) пры наяўнасці ўсіх адзнак у атэстаце 7 балаў і вышэй маюць права паступаць у ВНУ сілавых структур без здачы ЦТ.

**Для атрымання дадатковай інфармацыі Вы можаце патэлефанаваць у Глыбоцкі РАНС на нумар – 8 (02156) 2-63-46.**

# Прыватныя Абвесткі









## Аўтамабілі на продаж:

Аўдзі-100 С4, 2,3Б, 1991г.в., 3500руб, торг пасля агляду. Т.: 8-029-264-20-14

Аўдзі-80, 1987г.в., 1,8Б, ц\шэры седан. Т.: +37529-599-60-19

ВАЗ-2101, 1978г.в., добры стан, 800руб. Т.: 8-029-716-54-86(мтс)

ФВ-Пасат В3,1991г.в., 1,9Д, універсал, 10 млн. руб., без торга. Т:8029-286-65-32(мтс)⁺

ФВ-Транспарцёр Т-4, пасажырскі, 2,4Д, 1997г.в., торг. Т.: 213-55-04(мтс)

Форд-Транзіт, 1995г.в., кароткі, падвышаны, грузавы, або абмен на л\а.Т.:8-029-211-32-43

Форд-Эскорт. Т.: 8-025-320-33-83(л)

Рэно-Меган, універсал, 2004г.в., 1,9Д, зялёны металік. Т.: 8-033-613-61-72

Фіат-Брава, 2009г.в.,1,4Б, чорны, таніраваны, ідэальны стан,125 млн. руб. Т:8029-892-87-21(мтс)⁺

Мікрааўтобус Мэрсэдэс МВ-100, 1995г.в., грузавы, высокі, максі-база, пераварваны, 23 млн. руб., або абмен на л\а або трактар.Т.: 8-029-286-65-32(мтс)⁺

Сеат-Кардоба, 1994г.в., 1,4Б, чорны седан. Т.: 739-46-68(мтс)

Сузукі-Балена, 1,6Б, 2000г.в., срэбны ўніверсал, кандыцыянер, г\у, поўны эл\пакет, велюр, ПБ, выдатны стан, зімовая гума, нядорага. Т.: 8-033-370-69-72 (мтс)

ЗІЛ-131, ЗІЛ-130, Д, самазвал, дакументы ў парадку. Т.: 777-98-42(мтс)*

ГАЗ-66, Д. Т.: 777-98-42(мтс)*

ГАЗ-53, бартавы, 1400 руб.Т:8033-648-03-41 (мтс)

## Куплю машыны, трактары, прычэпы, матацыклы:

**Іншамарку ў любым стане, з любымі праблемамі. Дорага. УНН 223800390881. Т:8029-210-31-82(мтс), 8029-641-88-36(в)⁺**

Куплю трактар у добрым стане Т-25 або МТЗ-80-82, да яго куплю прычэп, касілку, бульбакапалку, плуг, культыватар і інш. Т.: 8029-120-82-52(в)⁺

Куплю аўто ў любым стане, з праблемамі і без. Можна аварыйны. Забяру сам. Т.: 8-029-907-04-13, 8-029-534-48-19

Іншамарку ў любым стане, можна аварыйную. УНП 391054913. Т:8029-518-12-59(мтс), 8029-715-46-92 (мтс)⁺

## Прадам трактары, прычэпы, матацыклы, лодкі, веласіпеды:

Скутар «HORS 051», 2014 г.в.,чырвоны, 770 р. Т.:8029-286-65-32(мтс)⁺

## Прадам запчасткі:

Да Аўдзі-80, А4, А6, В4, С4, С5, С6; Кіа-Кларус, Шума, Сэпхія;Нісан-Прэм'ера Р10, 11,12, Альмера, Мікра, Х-Трэйл Т-31;Опель-ВектраВ,Амега В,АстраG,F,Зафіра, Франтэра В, Корса; ФВ-Гольф-II, III, IV, Джэта-2, 5, Пасат В 3,4,5,6, Т-4; Пежо-106, 206, 307,405, 406, 605, 607, 806; Мазда-626,2,6; Форд-Мандэа 1,3,Транзіт, Фокус, Гэлаксі, Ф'южан, С-Макс; Рэно-19, Меган,-Кліа,Лагуна1,2,Сцэнік,-Эспайс, Сандэра, Маскат, Логан; Таёта-Карола,Ярыс;Вольва-440,460,ВольваV40; S40, XC70; Дэо-Нубіра, Леганза, Маціз; Мерседэс-W 201,W202, 203, W210; Сітраен-Сакса, ZX, Эвазіон, Ксара, С3 Пікасо; Сеат-Таледа,Ібіца,Кардоба; Міцубісі-Ландэр, Галант, Міцубісі ASX; Фіат-Пунта 1, 2,3,Марэа; Крайслер-Неон. Ваяджэр; Хундай-Поні, Лантра; Шэўрале-Нубіра, 2006 г.в: Ровер-214, 216, 1993г.в.Асартымент запчастак пастаянна змяняецца і паўлічваецца мадэльны шэраг аўтамабіляў. Т.: 292-99-33(мтс), 338-71-83 (в), 8-029-210-31-82 (мтс) *Ліц. №22380\0037920 ад 23.03.2004г.выд.Полацкім РВКда18.05.2013г. ІПФіліпсон С.І.УНП223800390881⁺*

Запчасткі б\у з Еўропы, для: Аўдзі-100, 80, А4, А6; Сітраен-Берлінга, Пікасо, С8,Ксара,Эвазіон, Ксантыя;Фіат-Марэа,Пунта; Форд-Галаксі, Эскорт,Арыён, Фокус, Мандэа; Хундай-Акцэнт, Матрыкс; Опель-Астра,Зафіра, Корса, Амега, Вектра, Цігра; Пежо-206, 307, 406, 605, 806, 807, Партнёр; Рэно-19, Кліа, Лагуна, Меган, Сцэнік;-Сеат-Альхамбра, Таледа; ФВ-Гольф,Д-жэта, Пасат, Шаран, Вента. Асартымент запчастак пастаянна змяняецца. УНП 391054913. Т.:8029-518-12-59 (мтс), 8-029-715-46-92 (мтс), 8025-709-51-24(л)⁺

Да Мэрсэдэс МВ 100: каробка перадач, стартар, генератар, куліса. Больш нічога няма. Т:8029-286-65-32(мтс)⁺

Сігналізацыю. Т.: 249-31-59⁺

**Аўтазапчасткі ў г. Глыбокае**. Магазін «Бегемот», вул. Леніна, 87. Запчасткі да л\а і мікрааўтобусаў, АКБ, маслы, кузаўныя запчасткі, шыны. Аўтакрэслы дзіцячыя. Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 391053348, пасв. № 391053348 ад 19.06. 2009 г. Тэл. гарачай лініі: 8029-712-93-34(мтс)⁺

Аўтамабілі па запчастках: ФВ-Гольф-2, Джэта-2, Пасат В2, В4, 1,6Б, 1,8Б, 1,9ТДі, 1,6Д; Аўдзі-80 В2, Аўдзі-100 С3, 1,6Б, 1,8Б, 1,6Д, 2,3Б. Т.: 537-10-70(мтс), 537-10-90(мтс)

ВАЗ-2110, 2000г.в., 1,5Б, цалкам на запчасткі, 600руб. Усе пытанні па тэлефону 518-23-88(мтс)

Шыны і дыскі R-14, 15, 16, ёсць многа адзіночак. Т.: 8-033-342-42-07(мтс)

Дыскі жалезныя R15 на Аўдзі і ФВ. Т.: 8-033-306-26-77(мтс)

Шыны Michelin R 195\65\15, летнія, 2шт., Viatti 195\65\R15, лета, 4шт. Т.: 717-82-12(мтс)*

Прычапноле да ФВ-Гольф-2, Джэта. Т.: 253-06-56(мтс)

КПП ад Жыгулёў. Т.: 516-53-60

## Прадам нерухомасць:

Дом у в. Пашкі, Шаркоўшчынскі р-н, на беразе ракі Дзісна,770-.руб. (7700000руб) Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)⁺

Дом у в. Станіславова, Шаркоўшчынскі р-н, з дакументамі, 1100руб (11000000 руб). Т.:8029-892-87-21 (мтс)⁺

Дом у в. Давыдкі (ля Галубіч), побач лес, рака, возера, з дакументамі, 1100руб. Т:8029-286-65-32(мтс)⁺

Дом недабудаваны ў Глыбокім, вул. Сонечная, 8. Т:8033-659-48-91(мтс)⁺

Кватэру 3-пакаёвую па вул. Міра, у панэльным доме, пакоі ўсе асобныя, санвузел асобны, з рамонтам, аг.пл. 59 м², 3-і паверх, кошт пасля агляду кватэры. Т.: 216-80-93 (мтс), 294-67-96(мтс)***

Кватэру 2-пакаёвую ў цэнтры Глыбокага, вул. Леніна, 26. Т:8029-715-92-50(мтс)*

Кватэру 3-пакаёвую ў Глыбокім, р-н МКК, кошт па дамове. Т.: 8-029-599-48-36(мтс)

Гараж, р-н МКК, кошт па дамове. Т.: 8-029-763-51-97(мтс)

Кватэру 2-пакаёвую ў г. Смаргонь, аг.пл.52м² на 3-м паверсе ў 4-павярховым доме. Ёсць падвальнае памяшканне, лоджыя. Т.: 752-59-23(мтс)

Кватэру 3-пакаёвую ў р-не МКК, новая перапланіроўка, еўрарамонт. Магчыма растэрміноўка плацяжу, крэдыт. Т.: +37525-709-70-66**

Дом жылы недабудаваны 2-павярховы. Магчыма растэрміноўка плацяжу, крэдыт. Т.: +37525-709-70-66**

Дом, в. Янчукі, лазня, сад, сажалка, гараж, гаспабудовы розныя, добрая дарога, побач лес і возера. Т.: 8-029-713-32-88**

Дом 10х10м з усімі выгодамі + агарод, врэмянка, хлеў, лазня, вул. Чырвонаармейская, кошт па дамове. Т.: 512-82-23(мтс)

Дом блочна-цагляны, з усімі выгодамі, вул. М.Горкага, 54. Т.: 2-14-28, 8-033-306-25-21(мтс)*

Гараж у р-не бальніцы. Т.: 8-029-515-53-52 (мтс)

Дом, 1974г.п., в. Шыпы. Т.: 3-88-34, 804-72-36(мтс)

Кватэру 2-пакаёвую ў 2-павярховым цагляным доме, 2-і паверх, у цэнтры Глыбокага. Т.: 5-28-95, 8-029-899-49-43

Дом у в. Залессе, Глыбоцкі р-н, ёсць калодзеж, хлеў, агарод 25 сотак. Побач бор, 2 возеры. У вёсцы пошта, магазін, школа, д\сад, с\с. Кошт па дамове. Т.: 8-02156-5-33-16, 8-029-902-07-20***

Кватэру 3-пакаёвую з выгодамі ў цэнтры горада. Т:+37529-204-05-91****

Прадам або абмяняю 1-пакаёвую кватэру ў р-не МКК на 2-3-пакаёвую. Т.: 8-029-275-46-45(мтс), 8-029-558-83-13(мтс)*

Кватэру 1-пакаёвую з перапланіроўкай, еўрарамонтам (камень, плітка, вадкія шпалеры і г.д.), перагародка, кухня, р-н Беразвечча, 2010г.п., 3-і паверх, возера, лес, магазіны, транспарт побач. Заходзі і жыві! Т.: +37529-713-74-34, +37529-214-34-55

Кватэру 3-пакаёвую ў р-не Беразвечча, без рамонту. Тэрмінова! Т.: +37525-719-26-83(л)*

Дом, 52м², с зямельным участкам 0,10га, Глыбокае, вул. Калініна, 12, 10000руб., торг. Т.: 512-75-64(мтс)**

Кватэру 2-пакаёвую ў р-не МКК, 5-ы паверх, не вуглавая, кошт па дамове. Т.: 8-029-249-61-05

Кватэру 2-пакаёвую ў в. Петрунова, аг.пл.38м², добры рамонт, усе выгоды. Т.: 598-77-22****

Дом цагляны, в. Станулі, з усімі выгодамі, гаспабудовы, ацяплен-не - газ. Т.: 8-029-899-42-24 (мтс)**

Гараж 7х7м, з печкай, дакументы, у р-не 2-й школы. Т.: 8-033-307-40-10 (мтс)

Участак у в. Абруб-Беразвецкі. Тэрмінова! На ўчастку закладзены фундамент да ўзроўню зямлі, ёсць фундаментныя блокі, каменне, пясок, будаўнічы вагончык, куб для вады. Побач газ. Т.: +37529-215-57-77 (мтс)

Кватэру 2-пакаёвую, вул. Маладзёжная. Т.: 8-029-372-81-08(в)****

Дом у Глыбокім, вул. М.Горкага. Т.: 216-89-33

Дом з усімі выгодамі + врэмянка. Т.: 308-70-06, 544-30-64(мтс)*

Дом у Глыбокім, вул. Леніна, 86, жыл.пл.50м², без выгод, кошт па дамове. Т.: 8-029-593-05-07

Паўдома, 16000руб. Т.: +37525-790-40-39(л)

## Абмен:

Абмяняю 3-пакаёвую кватэру і гараж у р-не Беразвечча на 1-пакаёвую, кошт па дамове. Т.: 5-50-32, +37529-292-77-29

* ЗАЎВАГА: калі ў абвестцы не пазначаны код горада, уладальнік тэлефоннага нумару знаходзіцца ў Глыбоцкім раёне.

## Здам:

Здам у арэнду м-н «Бегемот», вул. Леніна, 87, гандлёвыя плошчы на другім паверсе.
Т.: 8-029-757-37-70, 8-029-714-00-74 (мтс)+

Здаецца ў арэнду памяшканне на 2-м паверсе ГЦ, г.п. Шаркоўшчына, вул. Кірава, 46, першы паверх займае «Еўраопт».
Т.: 8-044-492-56-46(в)

Здам у арэнду гандлёва-адміністратыўныя памяшканні 40-80м² (першы паверх), вул.-Леніна, 16.
Т.: 211-27-29(мтс)

## Мэбля, посуд, дываны на продаж:

Кухню новую. Пасв. №391050456
Т:8029-892-87-21(мтс)+

Кухні. Распродаж астаткаў Нядорага. Магчымы продаж у доўг або крэдыт. Бясплатная дастаўка, выбар варыянтаў і колераў. УНП 391054834 выд. Глыбоцкім РВК.
Т:8029-286-65-32(мтс), 8029-892-87-21 (мтс)+

Выраб: кухні, шафы-купэ, мэбля па Вашых памерах. Якасць. Растэрміноўка. УНП391054410.
Т.: 513-34-12(мтс)+3

Канапу 2-ную сучасную, 2 мяккія крэслы.
Т.: 2-66-01, 676-58-56(мтс)

## Прадам катлы, сантэх\абсталяванне:

Кацёл ацяпляльны для гаража, склада, цяпліцы на адпрацаваным масле. УНН391054834.
Т:8029-892-87-21(мтс), 8029-286-65-32 (мтс)+

Кацёл у лазню, 570 руб (5,7млн.руб).
Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Кацёл ацяпляльны на дровах, новы. Пасв. 391050456.
Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Катлы ацяплення, новыя, «Камфорты», «Люксы», нядорага. Магчымы продаж у доўг або крэдыт. КСТ-12,5, «Камфорт-Плюс» на дровах, апілках, брыкеце. Продаж астаткаў катлоў. Бойлеры. Дастаўка. УНН 391054834 . Тэлефон гарачай лініі 8029-286-65-32 (мтс), 8029-892-87-21(мтс), 8-029-714-00-74(мтс)+

Кацёл у лазню.
Т.:8033-371-78-14(мтс)

Кацёл на ц\п «Уют», у эксплуатацыі не быў.
Т.: 595-48-68

## Прадам будматэрыялы:

Ванна акрылавая таўстасценная, нядорага. УНН391054834.
Т.:8029-892-8721(мтс)+

Кабінкі душавыя, боксы, **распродаж** астаткаў, нядорага. УНН391053348.
М-н «Бегемот», вул. Леніна, 87+

Блокі сілікатныя, 95руб\куб. УНН391054834.
Т:8029-28665-32 (мтс),8029-892-87-21+

Ламінат, продаж астаткаў, ліквідаванне склада, нядорага. УНН391054834.
Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Дзверы ўваходныя (дрэва з пластыкам) 2,1х0,9м; дзверы ПВХ балконныя 2,37х0,84м + акно ПВХ неадкрыўное 1,5х0,82м; дзверы міжпакаёвыя драўляныя (Пастаўскія) са шклом 70-ка з каробкай і фурнітурай; дзверы (палатно) 80-ка (Пастаўскія). Усё новае. УНН391054834.
Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+





Сушылка для ручнікоў з нержавейкі, новая. УНН391054834.
Т.: 8029-286-65-32 (мтс)+

Супрацьмарозная дабаўка ў цэмент (сухая). УНН391054834.
Т:8029-892-87-21(мтс)+

Вароты ралетныя б\у.
Т.: 810-04-70(мтс)

Плёнку п\э, карбанат. Парнікі, альтанкі. УНН390446975.
Т.: 715-13-55(мтс)*

Панэлі перакрыцця П-абразныя, оптам, б\у, 23шт., 150х600, кошт па дамове.
Т.:+37529-826-50-22**

Цяпліцы з полікарбаната. Т.: 8-029-550-93-75

## Куплю будматэрыялы:

Цэмент у мяшках.
Т.:8-029-892-87-21 (мтс), 8-029-286-65-32 (мтс)+

Бетонамяшалку.
Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Шыфер б\у.
Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Таўру, двутаўру.
Т.:8029-714-00-74 (мтс)+

Паддоны б\у ў любым стане. Т.:
8-029-715-93-53**

## Прадам тэлефоны:

Аксэсуары для мабільных тэлефонаў: чахлы, акумулятары, зарадкі. УНП 300594330.
Т.: 813-99-99+

## Бытавая тэхніка і газавае абсталяванне на продаж:

Бойлер «Арыстон» на 30л, новы. Катлы ацяпляльныя на дровах. УНН 391054834..
Т.:8029-286-65-32(мтс)+

Бойлеры для гарачай вады на 80л, да любых катлоў на ц\паліве і да любой сістэмы ацяплення. УНН391054834.
Т.: 8029-286-65-32 (мтс)+

**Ноўтбук**, 200руб (патрэбна замена акумулятара).
Т.: 813-99-99+

Параачысціцель «KarcherSC 3.000», новы, прафесійны, для інтэнсіўнай чысткі дываноў, канапаў, салонаў аўто, кафеля, газавых пліт, сантэхнікі, 3,4 млн.руб. Т.: 8029-286-65-32 (мтс)+

**Прынтар, ксеракс. Т.: 517-46-14(мтс)+**

Тэрмінова і танна новы адпарывацель «Філіпс».
Т.: 8-029-599-48-36 (мтс)

Параачысціцель «TUTTO STEAMY BY ZEPTER», паравое прасаванне, 1200руб. і фен, 50руб.
Т.: 8-029-599-96-89*

Бойлер «Арыстон», 100л, б\у 1 год.
Т.: 8-033-679-12-05

## Прадам еміну:

**Бульбу дробную і вялікую, з дастаўкай. Т.: 514-21-76 (мтс)+4**

За добрым настроем і зарадкай дадатнай энергіяй, запрашаем у магазін разліўнога піва: г.Глыбокае, вул. Дзяржынскага, 3 (ДАСААФ). **ПІВА** бачкавое, жывое на разліў, нядорага. УНН391054834.
Т.: 8-029-745-00-74 (мтс)(з 10.00 да 22.00)+

Жыўнасць на мяса, можна паўтушы, пароды Ландрас.
Т.: +37529-582-03-71 (мтс)

Жыўнасць на мяса.
Т.: 216-62-75(мтс)

Жыўнасць на мяса.
Т.: 3-29-40

Тушу або паўтушы жыўнасці, 6руб\кг.
Т.: 598-45-65*

Жыўнасць на мяса.
Т.: 894-24-88(мтс)

Бульбу «Лілея» насенную, раннюю.
Т.: 4-10-86, 375-33-95*

Жыўнасць на мяса, пароды Ландрас.
Т.: 216-89-33

Паўтушы жыўнасці на мяса.
Т.: 212-05-28(мтс)

Бульбу вялікую з асабістага агарода.
Т.: 870-19-02(мтс)*

## Куплю еміну:

Дохлю скаціны.
Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

Галаву, ногі, печань, сэрца ад дамашняй жыўнасці.
Т.: 8-029-286-65-32 (мтс)+

## Прадам жывёлу, рыбак:

**Шчанят ад нямецкай аўчаркі.
Т: 8033-686-50-39+5**

Жыўнасць в'етнамскую, 2 мес., ядуць усё, сумесь з беларускімі.
Т.: +37529-582-03-71 (мтс)*****

Жыўнасць белую. Дастаўка.
Т.: 8-033-306-85-86 (мтс)

Шчаня рэдкай пароды, тайскі рыджэк, дзяўчынка, блакітны акрас, шорстка велюр.
Т.: +37529-704-00-46

Жыўнасць в'етнамскую.
Т.: 8-033-306-26-47

Карову, ацёл у маі. Т.: 8-029-219-14-26(мтс)

Індакачак.
Т.: 613-71-98(мтс)

Авечак раманаўскай пароды з ягнятамі, на племя. Заанінскага казла.
Т.: 8-029-863-60-34

Авечак вялікіх і маленькіх, кошт па дамове. Т.: 8-029-890-54-34

## Куплю жывёлу:

Малочнае цяля, быка.
Т.: 8-029-841-03-75+4

БРЖ (цяля, быка, карову, барана). УНП 390410928.
Т.: 8-029-891-40-66 (мтс)*****

Каня для сябе.
Т.: 8-029-617-16-23

## Прадам пчол і абсталяванне:

Навучу пчалярству бясплатна, перадам вопыт. Магу прадаць вуллі, медагонку, рамкі, вашчыну і іншы інвентар. Актыватар вады для павелічэння вытворчасці пчол.
Т.: 8-029-286-65-32(мтс)+

## Прадам паліва:

**Прычэп дроў (альха-бяроза) з дастаўкай. Т.:514-21-76 (мтс)+4**

Дровы, абрэзкі, аўтамабіль ЗІЛ, прывязу. Кацёл ацяпляльны на дровах. УНН391054834.
Т: 8-029-286-65-32 (мтс)+

## Прадам зерне:

Зерне молатае.
Т.: 810-65-54(мтс)

## Куплю зерне:

Ячмень оптам, нядорага. Т.: 8-02156-4-18-96, 8-029-669-19-62(в)

## Прадам тавары для здароўя:

**Бабровую струю** - эфектыўна ўзнаўляе патэнцыю, амалажвае,-садзейнічае пахудзенню
Т:8029-286-65-32(мтс)+

**Жывая і мёртвая вада** вылечвае многія хваробы. Аб карысці жывой і мёртвай вады самастойна знаёмцеся ў інтэрнэце. па пытаннях заказу і пакупкі прыбора для вытворчасці жывой і мёртвай вады тэлефануйце 8-029-892-87-21(мтс)+ у падарунак кніга «Лячэнне жывой і мёртвай вадой» Г.Д. Лысенка. Выдв. РБ. Ліцэнзія. Афіцыйны сертыфікат МінРБ.УНН391054834.
Т.: 8029-892-87-21 (мтс)+

## Куплю калекцыі:

Фарфоравыя статуэткі часоў СССР, ГДР, узнагароды, манеты, калекцыі. Дорага. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК.
Т:8029-286-65-32(мтс)+

## Здам:

Здам будаўнічыя рыштаванні (леса) ў арэнду (6х6), 20руб. \1 дзень, ад 3 сутак. УНН391054834.
Т:8029-286-65-32(мтс)+

## Прадам эл\абсталяванне:

Кампрэсар прафесійны на 380В, 4,7млн.руб.
Т:8029-892-87-21(мтс)+

Трохфазны эл\рухавік.
Т:8029-892-87-21(мтс)+

Апарат зварачны генератарнага тыпу (прывад ад эл\рухавіка) 380В, 470руб. (4,7млн. руб).
Т.: 8029-120-82-52(в)+

Станок для раскрыжоўкі дроў,380В, 200руб, або абмяняю на свярлільны станок.
Т.: 8-029-899-45-05(мтс)

Насос цэнтрабежны, зварачны апарат 220-380В, зараднае прыстасаванне для акумулятараў. Усё па 150руб.
Т.: 253-06-56(мтс)

## Прадам іншае:

Жорны (каменне) для ўпрыгожання двароў, фундаментаў. УНН391054834
Т:8029-892-87-21(мтс)+

Кухню новую. Пасв. №391050456 ад 07.03.2008г.
Т.:8029-892-87-21(мтс)+

Ламінат, продаж астаткаў, ліквідаванне склада, нядорага. УНН391054834.
Т:8029-286-65-32(мтс)+

Бочкі з-пад аўтамабільнага масла на 200л, распродаж, 25 бел.-руб. УНН391054834. Т.:8029-892-87-21(мтс)+

Кацёл ацяплряльны на дровах, новы. Пасв.№391050456 ад 07.03.2008г. Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Кацёл ацяплряльны, новы.Т.:8029-286-65-32 (мтс),8029-892-8721(мтс)+

За добрым настроем і зарадкай дадатнай энергіяй, запрашаем у магазін разліўнога піва: г.Глыбокае, вул. Дзяржынскага, 3 (ДАСААФ). **ПІВА** бачкавое, жывое на разліў, нядорага. УНН391054834. Т.: 8-029-745-00-74 (мтс)(з 10.00 да 22.00)+

Распродаж нядорага: бочкі (бутлі) пластыкавыя на 30 л для дамашніх вінадзелаў, пітной вады, для спіртных напояў, вады ў лазню, пчалаводам для захоўвання мёду, для парнікоў і іншых гаспадарчых патрэб. УНН391054834. Т:8029-286-65-32(мтс)+

Балон вуглекіслотны, кошт па дамове. Т.: 8-029-596-75-38

## Куплю іншае:

Бочку 6-8 кубоў, пад каналізацыю. Т:8029-286-65-32(мтс)+

Таўру, двутаўру. Т:8029-714-00-74(мтс)+

Такарны станок па металу на 220В. Т.: 8-029-297-60-37

## Пасажырскія перавозкі:

Заказныя пасажырскія перавозкі, семінары, вяселлі, экскурсіі. Камфартабельны аўтобус 8-15 месц, наяўны і безнаяўны разлік. ІП Шабан .В. Ліц. Мінтранспарта №3-32415 ад 16.12. 2012 да 16.12.2022г. Т.:8033-646-21-99 (МТС), 8-0291902199(В)+4

Адвязу людзей у Дыягнастычны цэнтр. ІП Шабан В.В. Ліц. Мінтранспарта №3-32415 ад16.12. 2012 да 16.12.2022г. Т.: 8033-646-21-99(МТС), 8029-190-21-99 (В)+4

## Грузаперавозкі:

Грузаперавозкі па РБ: МАЗ, тэнт 40 кубоў, 10т. УНН 391054834 выд. г Глыбоцкім РВК. Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

МАЗ з адкрытым паўпрычэпам, 13,5м, 20т. УНН 391054834, выд. Глыбоцкім РВК. Т: 8-029-286-65-32 (мтс)+

УРАЛ-лесавоз з маніпулятарам. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-892-87-21 (мтс)+

Перавозкі грузаў папутна з Глыбокага ў Мінск, з Мінска ў Глыбокае, любой вагі і аб'ёму (ад 1кг да 20т), а таксама любыя іншыя напрамкі. УНН 391054834. Т.:8029-286-65-32 (мтс)+

Эвакуацыя л\а, джыпаў, а таксама перавозка розных грузаў да 3т, грузавая платформа, па РБ, РФ, Літве, Латвіі. УНП390056166. Т.: 8-029-713-32-88, 8-044-713-32-88+8

## Паслугі:

Адкачаю каналізацыю. УНП 390271248. Т.: 8-029-713-36-35+9

Паслугі прычэпа: вываз будаўнічага смецця, прывязу гравій, пясок і многае іншае. УНП 390271248. Т.: 8-029-713-36-35+9

Адкрылася новая аўтамыйка, вул. Энгельса, 41. УНП391536843. Т.: 8033-370-80-00 (мтс)+1

Дапамога ў пакупцы аўтамабіля ў Беларусі, Расіі, Літве. Праверка электронным таўшчынямерам: біты\не біты, фарбаваны\не фарбаваны\падфарбаваны. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т.: 8-029-120-82-52(в)+

Паслугі па рубцы зрубаў.УНН391054834. Т.: 8029-892-87-21 (мтс)+

Кваліфікаваны спецыяліст выканае: рамонт, замена і ўстаноўка сантэхабсталявання; зборка, устаноўка душавых кабінак і інш.; мантаж ацяплення, вадаправода і каналізацыі. Рамонт, падключэнне і ўстаноўка эл\абсталявання. Пластык, ламінат і інш. Хутка і якасна! УНП 391532784, ІП Сауліч В.В. Т:+37529-218-38-66 (мтс)+2

Паслугі электрыка. УНП 391532784. Т.:+37529-218-38-66 (мтс)+2

**Паслуга «Дамашні майстар»** (100 работ па дому і офісу). Эл\мантажныя работы: мантаж, замена і выяўленне няспраўнасцяў эл\праводкі, свяцільнікаў, разетак, выключальнікаў, УЗО, эл\званкоў, бра і інш. Замена лічыльнікаў эл\энергіі. Сантэхнічныя работы: зборка і ўстаноўка душавых кабін, унітазаў, умывальнікаў, ваннаў. Урэзка кухонных мыек, мантаж трубапровадаў ацяплення, халоднай і гарачай вады. Устаноўка і мантаж бытавой тэхнікі. Зборка і рамонт мэблі: навешванне карнізаў, жалюзі, карцін, кранштэйнаў пад тэлевізар і інш. Дапамога ў выбары і дастаўцы матэрыялаў. УНН 391530077 ад 18.12.2014г. Т.: 8-029-816-03-64, 8-029-379-77-94**

Рамонт грузавых аўтамабіляў, прадастаўленне рамонтных месц. Такарныя, слясарныя, зварачныя работы. УНП390477474. Таварыства з абмежаванай адказнасцю «Бур і К», Г. Глыбокае, вул. Чыгуначная, 14. Т.: 8-029-595-30-75+7

Кузаўны рамонт любой складанасці:: узнаўленне аварыйных аўтамабіляў; рыхтоўка і расцяжка бітых аўто; зварачныя работы любой складанасці (замена арак і парогаў, падварка глушыцеляў і днішча); антыкаразійная апрацоўка днішча і схаваных поласцяў кузава (пушачным салам, масцікай, гравітэксам); рамонт хадавой часткі аўто. УНП391536274. Т.: +37529-517-66-43 (мтс)

Акажу будаўнічыя паслугі: мантаж сцен, паталкоў з ГКП, ПВХ, МДФ, штукатурна-малярныя работы, сталярныя работы, аддзелка мансард, лесвіцы, эл\каміны, лазні пад ключ, сантэхнічныя і многія іншыя работы.УНП391534031. Т.: 816-06-74(мтс)

Будаўнічыя работы: укладка пліткі, ламіната, паркетнай дошкі, устаноўка дзвярэй, акон. Гіпсакардон, шпаклёўка, штукатурка, афарбоўка. Уцяпленне фасадаў, караед. Кровельныя работы і інш. будаўнічыя работы. ІП391076644. Т.: 896-50-14(мтс)*

Унутраныя аддзелачныя работы: абліцоўка пліткай, работа з гіпсакардонам, шпаклёўка, штукатурка, укладка ламіната, ліноліума, паркетнай дошкі і многае іншае. Устройства дахаў, кладка блокаў, цэглы, паслугі электрыка і іншыя будаўнічыя работы-.УНП391534600. Т.: 849-72-62

Паслугі экскаватара (любыя работы любой складанасці). МАЗ, 10 тон (прывоз і адвоз). УНП391051503. Т.: 8-029-710-76-67, 8-029-518-50-85+7

## Шукаю працу:

Устанаўлю адкосы любой складанасці. Дастаўка матэрыялаў. Устанаўлю ацяпленне, газавы кацёл, душавую кабіну, бязбашанку, ПВХ, ламінат, плітка, дзверы, сантэхніка, электрыка. Дастаўка матэрыялаў, дапамога ў выбары.Устанаўлю, адрамантую дах: шыфер, андулін. Без шкодных звычак. Т.: 595-48-68+17

Масаж дарослы і дзіцячы, антыцэлюлітны масаж. Масаж пасля траўмаў і інсультаў. Медадукацыю і вопыт маю. Т: 8-029-717-69-38***

Дапамагу студэнту ў біяхіміі, генетыцы, мікрабіялогіі, малекулярнай біялогіі і г.д. Т.: 8-029-837-50-50

Рубка зрубаў якасна, любой складанасці. Т.: 688-98-07(мтс)

## Прапаную працу:

Патрабуецца рабочы на дзялянку ў лесе, 1 гадзіна + 1 рубель. Т.:8029-892-87-21(мтс)+

Патрабуецца на пастаянную работу рабочы на будоўлю. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т:8029-286-65-32(мтс)+

Патрабуецца жанчына рознарабочая. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т:8029-286-65-32(мтс)+

Патрабуецца майстар (спецыяліст) для ўстаноўкі страпільнай сістэмы на даху. УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т.:8029-714-00-74(мтс)+

Патрабуецца рознарабочы, аплата пачасавая, 70 кап.\гадзіна. Т.: 8-033-363-94-37+

Патрабуецца плітачнік-абліцоўшчык (майстар для ўкладкі пліткі абліцовачнай у ваннах і туалетах) УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т:8029-286-65-32 (мтс)+

Патрабуецца дзяўчына, не старэй 35 год, для працы ў магазіне (улік тавараў, рэвізій). УНН 391054834 выд. Глыбоцкім РВК. Т: 8029-286-65-32(мтс)+

Патрабуецца прадавец у магазін (дзяўчына). Т:8029-716-28-26(мтс)

У магазін «Склеп на Міра» патрабуецца прадавец, г. Глыбокае. Т.: 8-029-714-24-78(мтс)

ЧТУП «Данта-мэбля» патрабуецца вадзіцель кат. С, да 35 год. УНП391531471 ад 29.07.13г. Т.: 8-029-871-73-25, 8-02156-2-68-04

На пастаянную работу патрабуецца майстар па ўстаноўцы акон і дзвярэй. Т.: 8-029-361-73-84

**Па пытаннях РАЗМЯШЧЭННЯ РЭКЛАМЫ на старонках «Вольнага Глыбокага»** звяртацца па тэлефоне МТС: **8-029-813-99-99 (Наталля)**

# Новыя віды дзейнасці і законны продаж у інтэрнэце. Мінэканомікі спросціць жыццё рамеснікам



■ Уладзіслаў Кавалеўскі / FINANCE.TUT.BY

**Міністэрства эканомікі падрыхтавалапраектуказа аб пашырэнні пераліку відаў рамесніцкай дзейнасці.**

Дакумент, на думку чыноўнікаў, спрашчае ўмовы ажыццяўлення 11 з ужо наяўных відаў рамеснай дзейнасці, а таксама дае права на выраб 15 новых відаў тавараў. Зараз ўказ знаходзіцца на разглядзе ў Савеце міністраў. Гэтая інфармацыя змяшчаецца ў лісце Мінэканомікі, які атрымаў ўладальнік сайта па продажах тавараў беларускіх рамеснікаў.

Нагадаем, што ўвесну мінулага года рамеснікі звярталіся ў Міністэрства эканомікі з калектыўнай просьбай пашырыць пералік дазволеных для іх відаў дзейнасці, аднак атрымалі адмову. Як патлумачылі тады FINANCE.TUT.BY ў міністэрстве, штогадовы перагляд дазволеных відаў рамеснай дзейнасці не прадугледжаны. Пазней летам ужо самі чыноўнікі выступілі з ініцыятывай пашырэння спісу, запрасіўшы ўсіх зацікаўленых паўдзельнічаць у абмер–каванні праекта ўказа.

Па новым указе ў спіс рамеснай дзейнасці ўключана стварэнне наступных вырабаў:

кветак і кампазіцый, у тым ліку з раслінных матэрыялаў (без абмежаванняў у выкарыстоўванні матэрыялаў і тэхнікі);

вырабаў ручнога ткацтва, а таксама вырабаў, выкананых у лапікавай тэхніцы (без ручной падборкі складнікаў элементаў у традыцыях народнага мастацтва);

нацыянальнага беларускага касцюма;

любых вырабаў (акрамя мэблі) з дроту, шпагату, сінтэтычнай стужкі, бляхі, раслінных матэрыялаў мясцовага паходжання, дрэва;

вырабаў ручной працы з любых матэрыялаў, такіх, як бранзалетаў, ваз, гаршкоў для кашпо, вокладак, чахлоў для тэлефонаў, вясельных аксесуараў і іншых прадметаў.

Таксама ўказ уводзіць тэрмін «інструмент», што спросціць працэс атрымання беспрацоўнымі грамадзянамі субсідый на набыццё інструментаў, неабходных для іх рамеснай дзейнасці. Акрамя таго, указ дазваляе рамеснікам прадаваць свае тавары праз інтэрнэт.

Аднак ад некаторых прапаноў рамеснікаў чыноўнікі Мінэканомікі ўсё ж такі адмовіліся. Напрыклад, не будзе лічыцца рамесніцтвам дэкарыраванне прадметаў дробнымі дэкаратыўнымі элементамі (бісерам, пацерамі, скурай і г.д.), паколькі, на думку чыноўнікаў, гэта з'яўляецца перапродажам вырабаў, вырабленых трэцімі асобамі; выраб букетаў з цукерак, так як гэта можа рызыкаваць здароўе пакупнікоў; стварэнне вырабаў у тэхніцы «філігрань», так як выкарыстанне каштоўных металаў у рамеснай дзейнасці забаронена. Таксама вытворчасць абутку і адзення, у тым ліку галаўных убораў: «адначасова прадугледжваецца магчымасць ажыццяўлення гэтых відаў дзейнасці фізічнымі асобамі без рэгістрацыі ў якасці індывідуальных прадпрымальнікаў з выплатай адзінага падатку».

Самі рамеснікі супярэчліва паставіліся да новага дакумента, называючы яго адначасова прагрэсіўным і «ўжо састарэлым».

- Прагрэсіўнасць новага ўказа заключаецца ў тым, што рамеснікам дазволілі рэкламаваць і прадаваць свае тавары ў інтэрнэце. МАРТ падтрымаў гэтую ініцыятыву, - кажа ўладальнік сайта па продажах тавараў беларускіх рамеснікаў Валерый Колдачаў. - Аднак ва ўказе пакінулі закрыты пералік вырабаў ручной працы, хоць цяпер яны і могуць вырабляцца з любых матэрыялаў, акрамя забароненых законам, і ў любой тэхніцы - гэта плюс. Напрыклад, у гэты пералік не ўключаны манетніцы, якія пасля з'яўлення манет сталі вельмі папулярныя. Або падцяжкі - чаму рэмень лічыцца таварам рамеснікаў, а падцяжкі - не? Гэты спіс давядзецца пастаянна дапаўняць, так як новыя віды з'яўляюцца кожны дзень - мы за ім не згонімся.

У Беларусі працягвае расці колькасць рамеснікаў. На пачатак гэтага года іх было зарэгістравана амаль 23,4 тысячы. Гэта на 5,7 тысячы больш, чым год таму.

Дарэчы, раней планавалася падаць з 2017 года мясцовым органамі ўлады права павышаць стаўкі падаткаў для рамеснікаў і ўладальнікаў аграсядзібаў. Меркавалася, што збор можна будзе павялічыць не больш чым у тры разы - да 63 рублёў у год. Супраць павышэння падатку адразу ж выступілі рамеснікі, абгрунтаваўшы свой пратэст тым, што многія майстры «сыдуць у цень і дзяржава не атрымае наогул нічога». У выніку ўрад адмовіўся ад ідэі - норму выключылі з праекту закона аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Падатковы кодэкс.

# Аўтамабільны падатак у Беларусі не ўключаць у кошт паліва

■ Кар. БЕЛТА

**У Беларусі ў кошт паліва не будуць уключаць дарожны збор. Пра гэта заявіў першы намеснік міністра транспарту і камунікацыі Аляксей Аўраменка ў эфіры «Беларусь 1».**

Паводле яго слоў, такая схема дзейнічала да 2008 года, калі дзейнічаў рэспубліканскі дарожны фонд, а акцызы ад паліва ішлі на фінансаванне расходаў дарожнай гаспадаркі.

Аднак затым акцызы адмянілі, а праз некалькі ўявлі новы так званы «падатак на дарогі». «Механізм можа быць удасканалены, але пытанне аб уключэнні дарожнага збору ў паліва не разглядаецца», - адзначыў намеснік міністра.

Разам з тым раней генеральны дырэктар прадпрыемства «Мінскаблдарбуд» Дзяніс Сцяпанаў у эфіры радыёстанцыі «Мінская хваля» заявіў, што пытанне спагнання дзяржпошліны за выдачу дазволу на допуск транспартнага сродку да ўдзелу ў дарожным руху патрабуе перагляду. Паводле яго слоў, выплата фіксаванай сумы дзяржпошліны за выдачу дазволу на допуск да ўдзелу ў дарожным руху ў залежнасці ад масы аўтамабіля не ўлічвае тое, як часта чалавек карыстаецца аўтатранспартам.

«Вырашыць праблему можна было б, укараніўшы амерыканскі вопыт: заклаўшы суму так званага транспартнага падатку ў кошт паліва», - сказаў ён, падкрэсліўшы, што прапанаваны варыянт быў бы больш эфектыўны і справядлівы, паколькі аўтаўладальнік плаціць у залежнасці ад таго, колькі ён ездзіць.

Акрамя таго, паводле яго слоў, замежнікі, якія едуць транзітам праз Беларусь, не плацяць транспартны збор, асабліва калі рухаюцца па бясплатных дарогах, але пры гэтым яны карыстаюцца паслугамі АЗС.

## Усміхніцеся

Два рентгенолога пытаются рассмотреть на экране легкие заядлого курильщика.

Один говорит другому:

- Ничего не видно. Ну-ка, прибавь излучения.

- Так?

- Еще!

Присмотрелись.

- Все равно не видать! А это что за белые скелетики в очереди стоят?

- Да это детский сад из соседнего дома на прогулку вышел!

***

Пьяный мужик подобрал кота и приходит домой. Открывает жена.

Мужик говорит:

— А это обезьяна из джунглей.

— Ну какая же это обезьяна, — с улыбкой говорит жена, — это кот.

— не мешай. Я с котом разговариваю.

***

Два мужика стоят на улице. Проезжающая мимо машина обливает их грязью с ног до головы.

- Козел! - Кричит вслед первый.

Второй меланхолично так говорит:

- То ли дело в Париже. Обрызгала тебя машина. Сразу останавливается, выходит водитель, извиняется, сажает тебя на заднее сиденье, везет к себе на виллу, дарит цветы, отправляет одежду в химчистку. Потом ужин при свечах, а утром отвозит в отель.

- Ты что, в Париже был?

- Нет, жена была.

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Воровская специальность | | | | | | | | | |
| Католический священник | | Место стоянки судов | | Российский поэт-эмигрант | | Начальник флота у древних греков | | Рыба сем-ва карповых | |
| Лантаноид | | Слуга Хлестакова | | Гитлеровская разведка | | | | | |
| | | | | | | Тип легкового автомобиля | | Морской орел | |
| | Зритель, созерцатель | | И местный, и общий | Выяснение общественного мнения | | | | | |
| | | | | "Майор ..." | | | | | |
| | Первый ... комом | | | | | | Порт на Черном море | | Имя "кавказской пленницы" |
| | Легкоатлетический снаряд | Накладные волосы | | Овечий пастух | | | | | |
| | | | | Древнеримская провинция | Полька | | | | |
| | Река в Лондоне | Смертное ложе | | | | Река в Крыму | | Цифровая отметка успехов | |
| | | | | | Остров в Вест-Индии | | | | |
| | Роман Максима Горького | | Животное сем-ва полорогих | | | | | | Приятель Винни-Пуха |
| | | | | | Страна в Южной Америке | | | | |
| | Автор поэмы "Гуль и Навруз" | | Впадина, низина | | | | Советский истребитель | | |

**Ответы на сканворд № 08**

**По горизонтали:** Мухтар. Чарка. Ниобий. Хинди. Футбол. Рельеф. Самбук. Апорт. Арес. Планида. Шанс. Шаньга. Блуза. Укок. Рагана.**По вертикали:** Манифест. Хвост. Анино. Чехарда. Роналдо. Уфа. Бобр. Люкс. Манн. Уезд. Папа. Репс. Аза. Илька. Арака. Шуба. Наум. Шар. Нуг. Гон.

## ГАРАСКОП НА НОВЫ ТЫДЗЕНЬ

**АВЕН.**На гэтым тыдні ў вас з'явяцца новыя дзелавыя партнёры і заступнікі, у сувязі з гэтым вы можаце рэалізаваць самыя дзёрзкія планы, стварыць добры зачын на будучыню, палепшыць сваё матэрыяльнае становішча. Удача будзе спадарожнічаць вам у самых розных пачынаннях. Першая палова будзе поўная цікавых і нават загадкавых сустрэч і запомніцца вам надоўга. У канцы тыдня пастарайцеся паменш напружвацца на працы. У выхадныя не выключаныя праблемы з пажылымі бацькамі, а таксама візіт кагосьці са сваякоў.

**ЦЯЛЕЦ.** На гэтым тыдні вы можаце занадта захапіцца пабудовай стратэгічных планаў, куды лепш заняцца рашэннем надзённых праблем. Сярэдзіна тыдня - не лепшы час, каб спрабаваць паскараць вырашэнне пытанняў, звязаных з працай. Канец тыдня будзе поўны перамоваў і сустрэч, пераканайцеся, што вас разумеюць правільна, каб пазбегнуць цяжкасцяў у будучыні. Не дазваляйце беспадстаўным страхам і сумневам турбаваць вас.

**БЛІЗНЯТЫ.** Пачатак тыдня можа быць вельмі напружаным, але цікавым і плённым. Вялікі шанец знайсці сродкі для рэалізацыі сваіх ідэй. Вы будзеце адчуваць падтрымку навакольных у сваіх пачынаннях. Верагодныя пазітыўныя перамены на працы і ў асабістым жыцці. Канец тыдня спрыяльны для паездак і падарожжаў. Паспрабуйце быць цікавымі і абаяльнымі суразмоўцамі. У выхадныя трэба аднавіць затрачаныя сілы.

**РАК.** Гэты тыдзень абяцае быць лягчэй за папярэдні, але трывог і хваляванняў усё роўна не пазбегнуць. Паспрабуйце засцерагчы сябе ад непажаданых кантактаў і зайздросных людзей. У першыя дні тыдня будуць удалымі паездкі і камандзіроўкі. У сярэдзіне тыдня пажадана быць больш асцярожнымі пры зносінах з калегамі і сябрамі, упартасцю вы наўрад ці дасягніце жаданых вынікаў.

**ЛЕЎ.** Захопленасць працай заўсёды пахвальная, толькі не даводзьце сябе да знясілення. Не забывайце пра хатнія справы, інакш да канца тыдня вы назапасіце такую іх колькасць, што не зможаце з імі справіцца. Паспрабуйце праявіць паблажлівасць да калег па працы, яны абсалютна шчырыя ў сваіх памылках. У сярэдзіне тыдня можаце адчуць некаторае эмацыйнае напружанне, паспрабуйце звесці яго да мінімуму. У выхадныя ўспомніце пра неабходнасць падтрымліваць адносіны з сябрамі і сваякамі, парадуйце іх званком або візітам.

**ПАННА.** На гэтым тыдні вы можаце паспяхова справіцца са складанымі справамі. Будзьце асцярожныя і абачлівыя, падпісваючы важныя дакументы. Не адмаўляйцеся ад камандзіровак. Яны могуць прынесці вам прыбытак, а заадно - дапамогуць адцягнуцца ад сумных думак. Пачынаючы з другой паловы тыдня, вы адчуеце прыліў сіл і энергіі. У канцы тыдня вам прыйдзецца прадэманстраваць віртуознасць у сваіх прафесійных справах. Выкарыстоўвайце абаянне, дыпламатычныя здольнасці, і вы зможаце дамагчыся рэалізацыі ўсіх сваіх задум. Займіцеся домам, сям'я мае патрэбу ў вашай увазе.

**ВАГІ.**На працягу гэтага тыдня вам пажадана займацца дробнымі паўсядзённымі справамі і не будаваць грандыёзных планаў. Калі ёсць магчымасць, паспрабуйце пазбягаць кантактаў і сутыкненняў з начальствам. Старайцеся мець зносіны толькі з блізкімі і патрэбнымі людзьмі. Не хапайцеся за тысячу спраў адразу, больш выгадна выбраць нешта адно і на гэтым сканцэнтраваць усе намаганні. У пагоні за праўдай паспрабуйце пазбягаць канфліктаў. Ісціна рана ці позна абавязкова пераможа, а вы паберажыце свае сілы.

**СКАРПІЁН.** На гэтым тыдні вы зможаце палепшыць сваё становішча ў прафесійнай і асабістай сферах. . Вы зможаце ўмела абысці сеткі інтрыг, расстаўленыя кімсьці з калегаў, захаваўшы свой статус і добры настрой. У другой палове тыдня вы дасягнеце бліскучых вынікаў, удастоецеся пахвалы начальства і атрымаеце дадатковыя даходы.

**СТРАЛЕЦ.** Вецер перамен на гэтым тыдні будзе даволі моцны. Людзей, якія нарадзіліся пад гэтым знакам, можа панесці раптоўным ураганным парывам практычна ў любыя далі, цалкам памяняўшы і месца, і лад жыцця. У такія дні добра пачынаць жыццё з чыстага ліста, аднак, трэба вам гэта? Найбольш бяспечным рашэннем будзе адправіцца ў адпачынак. Тыдзень абяцае быць спрыяльным для адпачынку і займальных, эмацыйна-насычаных прыгод. У выхадныя пажаданы пасіўны адпачынак, які не патрабуе асаблівых энергетычных затрат.

**КАЗЯРОГ.** Вашы жаданні і рэальныя дзеянні могуць прыйсці ў пэўны дысананс. Вам можа здацца, што навакольныя людзі вас проста выкарыстоўваюць, нічога не даючы наўзамен. Хутчэй за ўсё, гэта не зусім так, таму не варта ўслых выказвацца з гэтай нагоды. Прыйдзецца ўціхамірыць самалюбства і ганарыстасць і падпарадкавацца распараджэнням вышэйстаячых. У сярэдзіне тыдня вы можаце стаць ахвярай няслушнай інфармацыі. Магчымы сваркі з блізкімі людзьмі, паспрабуйце своечасова спыніцца.

**ВАДАЛЕЙ.** Наступіў спрыяльны момант для актыўнай дзейнасці. Неабходна сабрацца з сіламі і не дазваляць сабе расслабляцца і ўпадаць у роспач. Абдумайце ўсё, не выпускайце з-пад увагі дробязяў, перш чым прымаць канчатковае рашэнне, і тады ў вас усё абавязкова атрымаецца. У самых актыўных і рашучых прадстаўнікоў гэтага знака можа з'явіцца магчымасць адкрыць новую справу, пачаць новыя праекты. У канцы тыдня верагодныя добрыя навіны, якія могуць адкрыць перад вамі нядрэнныя перспектывы.

**РЫБЫ.** Не выключана, што ўсе падзеі гэтага тыдня спакваля спрыяюць вашаму прафесійнаму росту. Паспрабуйце паменш увагі звяртаць на крытыкаў: паспяховае прасоўванне па кар'ернай лесвіцы будзе залежаць толькі ад вас. У другой палове тыдня ў асабістай сферы не спрабуйце змагацца з абставінамі, плывіце па плыні. У выхадныя дні дзеці могуць запатрабаваць ад вас увагі і спагады.

«Вольнае Глыбокае»
Заснавальнік: Прыватнае інфармацыйна-рэкламнае ўнітарнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс»

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1210, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь 8 лютага 2010 г.
Газета выходзіць адзін раз на тыдзень. Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы. Падпісана ў друк 28. 02 .2017 г. у 20[50]
Наклад 1400 паасобнікаў

Рэдактар: Уладзімір Іванавіч Скрабатун.
Тэлефон/факс: (02156) 5-52-94;
E:mail: vglybokaye@tut.by
Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, п/с №3
Замова 108

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор фактаў. Спасылкі на «Вольнае Глыбокае» абавязковыя.
Газета набраная і звярстаная на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае».
Надрукаваная ў друкарні ТДА «Знамение», г. Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Ліц. ЛП №02330/85 ад 23.01.2014
Юрыдычны адрас: вул. Шпітальная, 44, пак. 1, г. Глыбокае